*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ № 50 (158) ◈ 15 снежня 1993 г. ◈ Кошт — 5 рублёў.

## Поступ тыдня

**УДЗЕЛЬНІКІ КАНСУЛЬТАЦЫЙНАЙ НАРАДЫ ПАТРЫЯТЫЧНА-ДЭМАКРАТЫЧНЫХ СІЛ БЕЛАРУСІ ВЫСТУПІЛІ З ЗАЯВАЙ**, у якой выказалі занепакоенасць тым, што ў сродках масавай інфармацыі Рэспублікі Беларусь з'явіліся паведамленні аб плануемай перадачы Літоўскай Рэспубліцы станцы Гадуцішкі — часткі тэрыторыі Беларусі. Заява накіравана ў Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь. Літве — станцыю, а Расіі — ўсё астатняе?

**КААРДЫНАЦЫЙНЫ КАМІТЭТ АБ'ЯДНАННЯ ДЭМАКРАТЫЧНЫХ СІЛ БЕЛАРУСІ «ВЯСНА -94»** падтрымаў прапанову аб стварэнні Свабоднага прафсаюза настаўнікаў Беларусі і вырашыў аказаць дапамогу ў яго стварэнні.

**У ДРУКУ З'ЯВІЎСЯ ЗВАРОТ МЕНСКАГА СТРАЙКАМА ДА ГРАМАДЗЯН БЕЛАРУСІ** аб падрыхтоўцы агульнадзяржаўнага палітычнага выступлення, у якім, у прыватнасці, гаворыцца: «Наменклатура разрывае на часткі тое, што было створана некалькімі пакаленнямі беларусаў. Да прыкладу: за другую палову 1992 г. з Беларусі вывезена 4,5 млн. тон паліва, амаль 40 тыс. тон медзі, 10 тыс. тон нікелю і г. д. Гэта амаль гадавая патрэбнасць нашай эканомікі ў адзначаных металах і паўгадавы запас энерганосьбітаў... Выбіўшы з людзей самую галоўную каштоўнасць, якая робіць народ народам, — чалавечую салідарнасць, урад на чале з Кебічам не баіцца цынічна заяўляць: «Ідзіце працуйце — усё будзе добра». Мы звяртаемся да вас з прапановай ствараць страйкамы на прадпрыемствах і ва ўстановах. Кантактныя тэлефоны, якія дазволіў выкарыстаць Свабодны прафсаюз Рэспублікі Беларусь: 27-57-78, 27-13-16 ».

**У ВАЕННЫМ СУДЗЕ МЕНСКАГА ГАРНІЗОНА ПАЧАЛОСЯ СЛУХАННЕ СПРАВЫ** па іску старшыні БЗВ Мікалая Статкевіча да Міністэрства абароны і Менскай вышэйшай ваенна-інжынернай вучэльні з нагоды, як лічыць падпалкоўнік Статкевіч, незаконнага звальнення яго з войску. У час пасяджэння суда ўзніклі цяжкасці — суддзі не ведаюць дзяржаўнай мовы Рэспублікі Беларусь і яны запатрабавалі перакладчыка.




## Другі з'езд БЗВ

19 лістапада ў менскім Доме літаратара адбыўся другі з'езд Беларускага Згуртавання Вайскоўцаў, які прайшоў пад лозунгам «Незалежнасць, дэмакратыя, патрыятызм».

Дэлегаты з'езда прадстаўлялі ўсе 9 гарадскіх суполак (харугваў) арганізацыі ды 1 — Менскага раёна. У якасці гасцей прысутнічалі прадстаўнікі Міністэрстваў абароны ды ўнутраных спраў, а таксама Камітэта дзяржаўнай бяспекі.

Вынікам работы з'езда сталі змены ў статуце арганізацыі, якія, у прыватнасці, датычаць удзелу сяброў БЗВ у падрыхтоўцы моладзі да вайсковай службы. Быў прыняты зварот да грамадскасці, які нагадвае аб праве Беларусі на тэрыторыю Віленшчыны пасля скасавання пакта Молатава-Рыбентропа.

У. ПАНАДА.

**УСТАНОЎЧАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ ТАВАРЫСТВА ДРУЖБЫ «УКРАІНА—БЕЛАРУСЬ» АДБЫЛАСЯ Ў КІЕВЕ.** Таварыства мяркуе садзейнічаць далейшаму развіццю эканамічных, навукова-тэхнічных, культурных і іншых сувязей абедзвюх краін, устанаўленне кантактаў паміж калектывамі прадпрыемстваў, установ і арганізацый.

**У АДДЗЯЛЕННІ СУВЯЗІ ПАСТУПІЛІ НОВЫЯ ПАШТОВЫЯ МАРКІ,** выпушчаныя ў Рэспубліцы Беларусь. На адной адлюстраваны старадаўні герб Менска, а на другой — касцёл кармелітаў у Магілёве.

**У СМАРГОНІ АДБЫЎСЯ МІЖНАРОДНЫ ДЗІЦЯЧЫ ФЕСТЫВАЛЬ ІМЯ МІХАЛА АГІНСКАГА.**

## «ДУМКА»: ПЕРШЫЯ КРОКІ

Прайшло два гады, як ТБМ імя Ф. Скарыны зарэгістраваў настаўніцкі камітэт «Думка». І хоць нам не ўдалося пакуль стаць прыкметнай з'явай у асяроддзі настаўнікаў Менска, але ж плён намаганняў сяброў камітэта сёння ўжо відавочны.

Пры актыўным удзеле камітэта была праведзена рэспубліканская навукова-практычная канферэнцыя «Праблемы нацыянальнага адраджэння і народная адукацыя». У сярэдняй школе № 23 беларускай сталіцы два гады працаваў настаўніцкі калегіум па паглыбленым вывучэнні роднай мовы, гісторыі і культуры. Сярод стваральнікаў калегіума знаходзілася і «Думка». Усе, хто наведаў гэтыя заняткі,— выхавацелі дзіцячых садкоў, настаўнікі, прадстаўнікі іншых прафесій — атрымалі пасведчанні на права выкладання вучэбных прадметаў па-беларуску. Камітэтам былі арганізаваны сустрэчы з творчай інтэлігенцыяй Беларусі, з дэпутатамі Вярхоўнага Савета. Напрыклад, у школах Савецкага • раёна Менска з Алегам Трусавым сябры камітэта вывучалі ход рэалізацыі Закона аб мовах у Беларускай гуманітарнай гімназіі (сярэдняя школа № 2 сталіцы), у Беларускай політэхнічнай гімназіі (сярэдняя школа № 6), у сярэднляй школе № 147, аб чым рабіліся справаздачы на нарадах настаўнікаў і ў газеце «Наша слова».

Сёлета на базе менскай бібліятэкі імя Я. Купалы працягвае працаваць настаўніцкі калегіум беларускай мовы, гісторыі і культуры. «Думкай» падрыхтаваны рукапіс «Слоўніка вучня», дзе на родную мову перакладзена тэрміналогія асноўных прадметаў усяго школьнага цыкла. У бліжэйшы час мы мяркуем правесці фестываль настаўніцкай творчасці, выдаць зборнік метадычных парад і распрацовак, назапашаных лепшымі настаўнікамі Менска па адраджэнні роднай мовы і беларускай культуры.

А. КАЖЭРА,
старшыня настаўніцкага камітэта «Думка».

## ПРЭЗІДЭНТ КАЗАХСТАНА КРЫТЫКУЕ РАСІЙСКІХ ПАЛІТЫКАЎ

*Прэзідэнт Казахстана Назарбаеў востра крытыкаваў асобных расійскіх палітыкаў, абвінаваціўшы іх у гульні пачуццямі выбаршчыкаў напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў у Расіі. Паводле слоў Назарбаева, улады краіны выдатна абараняюць інтарэсы расійцаў, якія жывуць на тэрыторыі Казахстана. Выступ Назарбаева быў адказам на заяву, зробленую 22 лістапада міністрам замежных спраў Расіі Козыравым, які паведаміў, што Расія будзе выступаць у абарону правоў расійскамоўнага насельніцтва паўсюль, дзе гэта будзе неабходна, нават у прыязных дзяржавах. Прадстаўнік прэзідэнта Расіі Красікаў сказаў, што Назарбаеў даў волю пачуццям. Паводле слоў Красікава, праблема расійскамоўнага насельніцтва існуе і ў Казахстане, хаця ў гэтай рэспубліцы яна не настолькі значная, як у іншых.*

Жыццё Таварыства

## У супрацоўніцтве з мясцовымі ўладамі

24 лістапада ў будынку выканкама Заводскага раённага Савета Менска адбылася канферэнцыя-нарада, арганізаваная кіраўніцтвам Заводскага райвыканкама сумесна з раённай радай ТБМ. Да ўдзелу ў канферэнцыі былі запрошаны прадстаўнікі рана , прадпрыемстваў і ўстаноў раёна, а таксама грамадскіх і палітычных арганізацый. Тэмай сустрэчы стала абмеркаванне стану выканання Закона аб мовах прадпрыемствамі і ўстановамі раёна.

Звяртаючыся да прысутных, намеснік старшыні райвыканкама Г. Пятровіч прааналізаваў ступень выканання Закона дзяржаўнымі арганізацыямі. Ён падкрэсліў, што калі дашкольныя і навучальныя ўстановы, а таксама ўстановы культуры ў сваёй штодзённай рабоце карыстаюцца дзяржаўнай мовай, дык, у адрозненне ад іх, кіраўніцтва заводаў не надае вялікай увагі справе выканання Закона. У раёне няма ніводнага прадпрыемства, дзе патрабаванні Закона аб мовах выконваліся б цалкам. Марудна ідзе падрыхтоўка і перавод на беларускую мову справаводства. Зробленае за мінулыя гады дае падставы меркаваць, што артыкулы Закона, якія пачнуць дзейнічаць з 1 студзеня 1994 года, роўна як і дзеючыя, будуць ігнаравацца.

Наступным прамоўцам стаў старшыня раённай рады ТБМ М. Лавіцкі. Ён падкрэсліў: 12 суполак, якія дзейнічаюць у раёне, не могуць аказаць дзейснай падтрымкі выкананню Закона аб мовах на прадпрыемствах. Неабходна ствараць першасныя суполкі Таварыства на ўсіх заводах, бо гэта стане фактарам утварэння беларускамоўнага асяроддзя ў працоўных калектывах і паспрыяе паступоваму ўвядзенню дзяржаўнай мовы ў штодзённае карыстанне.

У сваім выступе намеснік пракурора раёна Ю. Магамадаў адзначыў неабходнасць поўнага выканання патрабаванняў Закона, а таксама магчымасць прыцягнення да адказнасці супрацьдзеючых яму асоб.

З прамовай выступіў старшыня гарадской рады ТБМ М. Савіцкі.

Удзельнікі канферэнцыі прыйшлі да высновы аб неабходнасці стварэння суполак ТБМ на ўсіх прадпрыемствах і ва ўстановах Заводскага раёна, што паспрыяе вывучэнню дзяржаўнай мовы работнікамі. Канферэнцыя звярнулася да кіраўнікоў прадпрыемстваў, грамадскіх і дзяржаўных арганізацый з просьбай аказаць практычную дапамогу ў стварэнні першасных суполак Таварыства і падтрымкі іх дзейнасці.

У. П.




# Увекавечым імёны паўстанцаў 1794 года

*Нацыянальны арганізацыйны камітэт па святкаванні ў Беларусі 200-х угодкаў Вызвольнага паўстання 1794 года, правёўшы экспедыцыю па месцах баёў паўстанцкіх аддзелаў з расійскімі вайскамі і ў родныя мясціны кіраўнікоў ды камандзіраў Паўстання з мэтай увекавечання памяці пра гэты народны гераічны чын, распрацаваў і прапануе вышэйшым органам улады, адпаведным міністэрствам, ведамствам, установам ды мясцовым уладам краіны ажыццявіць наступную праграму.*

### *МЕНСК*

Праспекту, які носіць імя Дзяржынскага (Берасцейскі напрамак) надаць імя А. Т. Касцюшкі; пляцу на скрыжаванні будучага пр. Касцюшкі і вуліц К. Цэткін і Нямігі надаць найменне Паўстання 1794 года. На гэтым пляцы збудаваць хрысціянскую экуменічную капліцу з помнікам паўстанцам А. Т. Касцюшку, Я. Ясінскаму, Т. Ваўжэцкаму, М. К. Агінскаму, С. Грабоўскаму, К. Рушчыцу, К. Серакоўскаму. Назваць вуліцы імёнамі кіраўнікоў — герояў Паўстання Тамаша Ваўжэцкага, Якуба Ясінскага, Міхала Клеафаса Агінскага, Стахвана Грабоўскага.

У непасрэднай блізкасці ад месца сутычкі авангарда С. Грабоўскага з расійскім атрадам, на скрыжаванні вуліц Прытыцкага і Кунцаўшчына паставіць памятны знак. У Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі адкрыць экспазіцыю, прысвечаную гісторыі Вызвольнага паўстання 1794 года.

### *БЕРАСЦЕ*

Вуліцы, якая ў 1939 г. была перайменавана і цяпер носіць імя Гогаля, вярнуць найменне А. Т. Касцюшкі.

Закласці помнік А. Т. Касцюшку і Паўстанню 1794 г.

У Берасцейскім абласным краязнаўчым музеі падрыхтаваць і адкрыць экспазіцыю па гісторыі Паўстання 1794 г. на Берасцейшчыне.

Фальварак Марачоўшчына (Івацэвіцкі раён)

Аднавіць сядзібу і дом, дзе нарадзіўся і жыў А. Т. Касцюшка. Стварыць тут мемарыяльны дом-музей А. Т. Касцюшкі. Усталяваць мемарыяльную дошку. Паставіць мемарыяльны знак на месцы, з якога славуты беларускі мастак Напалеон Орда маляваў сядзібу А. Т. Касцюшкі.

Мястэчка Косаў (Івацэвіцкі раён)

Замак сярэдзіны XIX ст. (архітэктары Ф. Яшчольд і У. Марконі), косаўскі парк, помнік садова-паркавага мастацтва, закладзены ў пачатку XVIII ст.

Патрабуюцца неадкладныя захады дзяржавы для рэстаўрацыі унікальнага замкава-паркавага комплексу; неабходна знайсці яму разумнае выкарыстанне. Косаў са сваімі гісторыка-культурнымі асяродкамі разам з сядзібай і домам-музеем А. Т. Касцюшкі павінен стаць унікальным кутком Бацькаўшчыны, нацыянальнай святыняй, адным з важных турыстычных аб'ектаў Беларусі.

Вёска Малыя Сяхновічы (Жабінкаўскі раён)

Прадоўжыць вывучэнне сядзібы Касцюшкаў, у перспектыве пры магчымасці аднавіць радавы дом і сядзібу бацькоў Касцюшкі. Зараз з вёсцы паставіць памятны знак.

На п'едэстале бюста А. Т. Касцюшкі, які стаіць перад мясцовай школай, зрабіць тэкставую таблічку.

### *СЛОНІМ*

У горадзе мэтазгодна назваць дзве вуліцы імёнамі кіраўніка Паўстання А. Т. Касцюшкі і паўстанцкага генерала Караля Серакоўскага. Ля касцёла св. Андрэя закласці і збудаваць помнік, на касцёле ўсталяваць мемарыяльную дошку. У горадзе закласці і збудаваць помнік Міхалу Казіміру Агінскаму, найвышэйшаму гетману ВКЛ.

Мястэчка Ружаны (Пружанскі раён)

Адной з вуліц мястэчка надаць імя А. Т. Касцюшкі. Прыкласці дзяржаўныя захады на тэрміновую кансервацыю унікальнага замкава-палацавага комплексу XVI—XVIII стст. роду Сапегаў з далейшай рэстаўрацыяй выдатнага помніка архітэктуры і гісторыі. Ружаны павінны стаць адным з цікавых турыстычных асяродкаў Беларусі.

### *БЯРОЗА*

Адной з вуліц надаць найменне Паўстання 1794 ці А. Т. Касцюшкі. Правесці грунтоўную кансервацыю руінаў кляштара картузіянцаў з далейшай рэстаўрацыяй выдатнага помніка архітэктуры і гісторыі.

### *КОБРЫН*

Неадкладна скасаваць экспазіцыю і спыніць дзейнасць музея імя Суворава, правесці яго рэарганізацыю. Да верасня 1994 г. у гэтым будынку адкрыць музей гісторыі Вызвольнага паўстання 1794 г. Дэманціраваць у горадзе ўсе помнікі і бюсты Суворава і перадаць іх Міністэрству культуры Беларусі для паўторнага выкарыстання бронзы. Вуліцы і парку, якія носяць імя Суворава, надаць імя А. Т. Касцюшкі.

Адной з вуліц горада надаць імя Казіміра Рушчыца — павятовага генерал-маёра, героя Паўстання. Закласці помнік А. Т. Касцюшку і Паўстанню 1794 г.

Вёска Чыжэўшчына (Крупчыцы) (Кобрынскі раён)

Ліквідаваць абеліск у гонар т. зв. перамогі Суворава над паўстанцамі. На былых каталіцкіх могілках у цэнтры вёскі збудаваць помнік у гонар бітвы паўстанцаў з сувораўскімі войскамі, якая адбылася на Крупчыцкім полі.

Вёска Скокі (Берасцейскі раён)

Сядзіба Нямцэвічаў. Помнік палацава-паркавай архітэктуры другой паловы XVIII ст. Ушанаваць мемарыяльнай дошкай памяць Ю. Нямцэвіча, сакратара і ад'ютанта А. Т. Касцюшкі, які тут жыў. У будынку стварыць школьны музей.

### *БРАСЛАЎ*

Вуліцам горада надаць імёны Т. Ваўжэцкага, М. К. Агінскага і актыўнага ўдзельніка Паўстання, ураджэнца Браслаўскага павета Язэпа Копаця. Тэму Паўстання адлюстраваць у мясцовым краязнаўчым музеі.

Мястэчка Відзы (Браслаўскі раён)

Прадуктовую краму, якая збудавана на магіле Тамаша Ваўжэцкага, перанесці ў другое месца. Аднавіць на сваім месцы магілу, збудаваць надмагільны помнік Т. Ваўжэцкаму. Аднавіць цвінтарную каплічку ля магілы Т. Ваўжэцкага. Вуліцы Леніна надаць імя Т. Ваўжэцкага, а вуліцы Пушкіна — Паўстання 1794 г. У цэнтры Відзаў паставіць бюст Т. Ваўжэцкаму.

Вёска Відзы-Лаўчынскія (Браслаўскі раён)

Рэстаўрыраваць дом і сядзібу Ваўжэцкіх (канец XVIII ст.). На доме адкрыць мемарыяльную дошку. У школе (дом Ваўжэцкіх) стварыць школьны музей Т. Ваўжэцкага і гісторыі Паўстання.

### *ПАСТАВЫ*

Галоўнай плошчы горада, якая цяпер носіць імя Леніна, вярнуць яе гістарычнае найменне — Рыначная; вуліцам, што пачынаюцца ад рыначнай плошчы, вярнуць іх гістарычныя назвы: дэманціраваць помнік Леніну, правесці рэканструкцыю плошчы. Закласці і збудаваць помнік паўстанцам 1794 г. Імёны герояў Паўстання генерала войска ВКЛ, кіраўніка Паўстання ў Беларусі Якуба Ясінскага і паўстанчага палкоўніка Тадэвуша Гарадзенскага ўвекавечыць у назвах вуліц горада. У мясцовым краязнаўчым музеі адлюстраваць падзеі Паўстання ў Пастаўскім краі.

### *ГАРОДНЯ*

Вуліцам горада надаць імёны А. Т. Касцюшкі, Я. Ясінскага, М. К. Агінскага. На каралеўскім палацы ўсталяваць мемарыяльную дошку ў гонар нарады кіраўнікоў Паўстання, якая праходзіла 30 верасня 1794 г. пад старшынствам А. Т. Касцюшкі, знаходзілася Гарадзенская паўстанчая парадкавая камісія. Закласці помнік Паўстанню 1794 г. У абласным краязнаўчым музеі адкрыць экспазіцыю, прысвечаную гісторыі Паўстання 1794 г. на Гарадзеншчыне.

### *АШМЯНЫ*

Гарадскім вуліцам надаць імёны Я. Ясінскага, Т. Гарадзенскага і С. Грабоўскага. Збудаваць помнік Я. Ясінскаму. У мясцовым краязнаўчым музеі адлюстраваць тэму Паўстання на Ашмяншчыне.

Вёска Паляны (Ашмянскі раён)

У вёсцы збудаваць помнік у гонар пераможнай бітвы паўстанцаў пад камандаваннем генерала Я. Ясінскага з войскамі расійскіх захопнікаў, якая адбылася 7 траўня 1794 г.

Мястэчка Солы (Смаргонскі раён)

У гарадскім скверы паставіць памятны крыж у гонар бітвы паўстанцаў з войскам расійскіх захопнікаў, якая адбылася 26 чэрвеня 1794 г.

### *СМАРГОНЬ*

Вуліцам горада надаць імёны М. К. Агінсага і С. Грабоўскага, усталяваць мемарыяльныя дошкі. Тэму Паўстання адлюстраваць у мясцовым музеі.

Вёска Залессе (Смаргонскі раён)

Сядзіба Міхала Клеафаса Агінскага. Неадкладна інтэнсіфікаваць рэстаўрацыю комплексу. Мемарыялізаваць ужо гатовыя для агляду наведвальнікамі аб'екты; падаць тлумачальную інфармацыю ў памяшканнях і на тэрыторыі комплексу, упарадкаваць тэрыторыю: парк, вадаёмы, дарожкі; наладзіць экскурсійную працу. На фасадзе сядзібнага дома М. К. Агінскага ўсталяваць мемарыяльна-ахоўную дошку. З ахоўнай зоны прыбраць крыж, які тут самавольна ўстаноўлены ў 1992 г. Неабходна, каб з пачатку 1994 г. сядзіба-музей М. К. Агінскага пачала функцыяніраваць і была ўключана ў лік важных турыстычных аб'ектаў краіны. Паралельна з гэтым неабходна забяспечыць планавую паступовую рэстаўрацыю астатніх аб'ектаў сядзібы.

Мястэчка Крэва (Смаргонскі раён).

Усталяваць мемарыяльную дошку ў гонар таго, што ў Крэве пэўны час знаходзіўся штаб кіраўніка Паўстання ў Беларусі генерал-маёра ВКЛ Я. Ясінскага і што тут скончыўся вайсковы рэйд аддзела М. К. Агінскага.

Мястэчка Свір (Мядзельскі раён)

Адной з вуліц мястэчка надаць імя паўстанцкага падпалкоўніка, камандзіра Паўстання Яна Зянкевіча.

### *ІВЯНЕЦ*

Адну з вуліц горада назваць імем М. К. Агінскага. Усталяваць мемарыяльную дошку ў гонар абвяшчэння ў Івянцы М. К. Агінскім звароту да грамадзян Менскага ваяводства.

### *ВАЛОЖЫН*

Адной з цэнтральных вуліц горада надаць імя М. К. Агінскага. Усталяваць мемарыяльную дошку. Гарадскую музычную школу назваць імем М. К. Агінскага.

### *МАЛАДЗЕЧНА*

Адной з вуліц горада надаць імя М. К. Агінскага, усталяваць мемарыяльную дошку. Закласці і збудаваць помнік М. К. Агінскаму. Адну з бібліятэк назваць імем М. К. Агінскага.

### *БАБРУЙСК*

Вуліцам горада надаць імёны кіраўніка Паўстання А. Т. Касцюшкі і паўстанцкага камандзіра С. Грабоўскага. Усталяваць мемарыяльныя дошкі.

*Любань*

Адной з вуліц гарадка надаць імя С. Грабоўскага. Усталяваць мемарыяльную дошку.

### *АСІПОВІЧЫ*

Увекавечыць імёны кіраўніка Паўстання ў Беларусі генерал-маёра Якуба Ясінскага і паўстанцкага камандзіра С. Грабоўскага ў найменнях вуліц горада.

Аргкамітэт прапануе Міністэрству абароны Беларусі Менскае суворaўскае вучылішча рэфармаваць у Менскі кадэцкі корпус або Менскі вайсковы ліцэй, пазбыцца, нарэшце, імя ката беларускага народа і далучыць выхаванцаў, будучых вайскоўцаў, да сапраўднай гераічнай вайсковай гісторыі Беларусі.

Мясцовым уладам і ўправам калгасаў і саўгасаў, якія носяць імя Суворава, знайсці годныя назвы для сваіх гаспадарак, кіруючыся мясцовай тапанімікай і геаграфіяй, гісторыяй і культурай Беларусі.

Аргкамітэт звяртаецца да грамадскіх арганізацый, камерцыйных устаноў і асобных грамадзян краіны падтрымаць ажыццяўленне мемарыяльнай, а таксама выдавецкай, культурнай і навуковай праграм (выданне плакатаў, вымпелаў, паштовак, памятных медалёў), падрыхтоўкі навуковай канферэнцыі, выставаў і канцэртаў.

Для тых, хто пажадае выступіць фундатарам праграм святкавання 200-х угодкаў Вызвольнага паўстання 1794 г. у Беларусі, называем наш разліковы рахунак: *700733 у Ленінскім аддзяленні Белбізнесбанка г. Менска, код 763. Тэлефоны: 32-54-46, 31-32-59.*

*Адрас: 220005, Менск, вул. Варвашэні, 8. Нацыянальны арганізацыйны камітэт па святкаванні ў Беларусі 200-х угодкаў Вызвольнага паўстання 1794 г.*

Мікола КУПАВА,
старшыня Аргкамітэта.

*Ліст у рэдакцыю*

# Пішыце не толькі пра мову

З задавальненнем азнаёміўся з артыкулам сп. Ул. Асінаўскага пра канфедэрацыю і ўрокі Багдана Хмяльніцкага(«Наша слова», № 38). Цалкам згодзен з аўтарам. Але трэба знаёміць чытачоў з гэтым пытаннем і, спасылаючыся на нашу беларускую гісторыю,— у прыклад падзей, што адбыліся ў 1651 г. у часы гетмана Я. Радзівіла, калі са здрады пачалася 342-гадовая акупацыя Беларусі «дабрадзеямі» ўсіх масцей, так што ўжо насельніцтву, прыніжанаму і адлучанаму ад сапраўднай гісторыі Айчыны, прапагандыстам-калабарантам стала даволі проста ўводзіць у вушы, быццам і Беларусі з нацыянальнай самасцю не існавала ніколі, а была не то Польшча, не то «Северо-Западный край».

Ды і пра сённяшняе вышэйшае кіраўніцтва трэба пісаць больш рашуча. Напрыклад, чаму не хочуць аддаць зямлю законным нашчадкам, чаму баяцца справядлівых выбараў, дзе сам народ скажа сваё слова — за каго ён і за што. А калі будзеце толькі пра філалогію, дык толку ніякага не будзе яшчэ гадоў трыста.

А ўвогуле жадаю «Нашаму слову» быць абсалютна аб'ектыўным і казаць людзям праўду пра камуністычныя эксперыменты над народам, якія прынеслі столькі пакут. А то штосьці ўсе апошнім часам прыціхлі бы мышы пад венікам, нават БНФ, чаго я не разумею. І калі вы сапраўды беларусы, то надрукуйце маё пісьмо.

г. Вілейка.

Сяргей ЧЫКАВАНІ-ВЕСЯЛОЎСКІ.

*АД РЭДАКЦЫІ. Мы надрукавалі артыкул Ул. Асінаўскага пра канфедэрацыю таму, што гэтае пытанне абмяркоўваюць суседзі-украінцы, а нашы звышінтэрнацыяналісты спрабуюць пераканаць народ, быццам гэта вельмі бяскрыўдная рэч. Пра ўласную гісторыю — як Вялікае княства апынулася ў канфедэратыўнай Рэчы Паспалітай, мы друкавалі некалькі артыкулаў. Але ў дадатак нагадаем, што з Расіяй у Беларусі дамоўленасці на канфедэрацыю ўвогуле не было. Дарэчы, «Наша слова» ўсё ж выданне культурна-асветніцкага накірунку, таму палітычныя рэаліі ўзгадваюцца ў выпадках, калі рэч ідзе пра нацыянальнае выжыванне народа як нацыі.*

*Рэха*

## Пашпарт павінен быць беларускім

Я цалкам падтрымліваю прапановы наконт новага пашпарта грамадзян Рэспублікі Беларусь, выказаныя ў друку Адамам Мальдзісам, Генадзем Цыхуном, Вячаславам Рагойшам. Таму я далучаюся да пазіцыі апошняй справаздачна-выбарчай канферэнцыі акадэмічнай арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны, дакументы якой у перакaзе былі надрукаваны ў № 45 «Нашага слова».

Што да існуючых праектаў ужывання расійскай мовы (у якасці адной з трох) у нашым новым пашпарце, то, мяркую, на гэта можна было б пагадзіцца толькі ў тым выпадку, калі б і ў расійскіх пашпартах ужывалася беларуская. Лічу ўвогуле, што тэкст усіх старонак беларускага пашпарта абавязкова трэба выканаць на дзяржаўнай мове рэспублікі і прадубліраваць на нямецкай ці англійскай мовах. Дапушчальна таксама, каб пэўныя рэквізіты асобы ў пашпарце рабіліся па-беларуску — і кірыліцай і лацінкай. Павінен жа, урэшце, наш пашпарт стаць беларускім!

Барыс БРАНАВІЦКІ,
прафесар Беларускага універсітэта культуры.

*Мова і спорт*

# І ў спорце лёд крануўся




Сярод культурных асяродкаў нашай Радзімы, на мой погляд, сфера фізкультуры і спорту найбольш падпадае пад кансерватыўныя ўплывы па захаванні расійскай мовы.

А ўсё ж, здаецца, і тут «лёд крануўся». На менскім стадыёне «Дынама» не ўсе, мабыць, аб'явы даюцца на беларускай мове. Але магу запэўніць, бо не аднойчы там быў, што аб'явы саставаў футбольных каманд і замены па ходу гульні на матчах першынства краіны па футболу гучалі на беларускай мове. Прыкра толькі, што гэта, бадай, адзіны горад, дзе дыктары стадыёна робяць аб'явы пабеларуску. Вельмі хацелася б памыліцца.

Але вось яшчэ навіна. Напрыканцы чэмпіянату мне даводзілася быць на маладзечанскім гарадскім стадыёне. Прызнаюся, мяне прыемна здзівіла: тут прадавалася беларускамоўная праграма футбольнага матча. Зроблена яна была з добрым мастацкім густам. Разам з цікавай спартыўнай статыстыкай у праграме прачытаў і артыкул, прысвечаны праводзінам з вялікага футбола знакамітага ветэрана і гульца Аляксандра Кісценя на трэнерскую працу. Напісаны артыкул на добрай беларускай мове.

Застаецца дадаць, што праграму падрыхтаваў спадар Валянцін Ліпніцкі і яна падрыхтавана ў маладзечанскай друкарні «Перамога». А вось дыктар гарадскога стадыёна ўсе аб'явы робіць па-расійску. Варта было б сябрам суполкі ТБМ прапанаваць яму сваю дапамогу, бо гэта не дробязі, улічваючы, колькі ў яго слухачоў, прычым пераважна маладых.

Закончыўся першы круг 3-га чэмпіянату Беларусі па футболу. Наступіў антракт на цэлых пяць месяцаў. Думаецца, ёсць час падрыхтавацца, каб нарэшце на ўсіх стадыёнах запанавала беларуская мова, і каб зроблена гэта было ў комплексе: праграмы, аб'явы па радыё. Ды і рэклама. Хацелася б, каб гэта ўзялі пад свой кантроль грамадскасць, мясцовыя суполкі Таварыства беларускай мовы.

Дарэчы, на мой погляд, рэспубліканскаму Таварыству беларускай мовы трэба неяк заахвоціць спадара В. Ліпніцкага. Усё-такі ён выпусціў першую беларускамоўную спартыўную праграму да футбольнай гульні на першынства Беларусі. Тым больш, што выпушчана яна не ў сталіцы ці абласным цэнтры. А заахвочваць, улічваючы абмежаваныя фінансавыя магчымасці ТБМ, не абавязкова грашыма. Добрае слова грамады — таксама вялікая каштоўнасць.

Яўген ІГНАТОВІЧ.

### ВЕСТКІ З ВІЛЕНШЧЫНЫ

У Вільні створана яшчэ адна невялічкая арганізацыя — Згуртаванне беларусаў-палітзняволеных. Старшыня рады згуртавання Аляксей Анішчык. У гады сталіншчыны ён быў асуджаны на 25 гадоў зняволення ў лагерах. Тэлефон ЗБП 75-86-06.

*Руплівцы*



# Пачынальнік

Калі сёння ў школах асноўныя прадметы ўсё ж сяк-так вядуцца на нацыянальнай мове, то на спартыўнай пляцоўцы ці ў спартыўнай зале вучні зусім не чуюць роднага слова. Тут шмат прычын: настаўнікі фізвыхавання ў большасці выпадкаў не ведаюць мовы, бо адпаведную адукацыю атрымалі ў рускамоўных інстытутах; дагэтуль не распрацавана спецыяльная тэрміналогія па выкладанні гэтага прадмета на дзяржаўнай мове. Няма, на жаль, у нас ні слоўнікаў, ні падручнікаў, ні хоць якіх дапаможнікаў па выкладанні фізкультуры па-беларуску. І чакаць іх у хуткім часе не даводзіцца, бо Міністэрства асветы, відаць, не спяшаецца падрыхтаваць і рэкамендаваць да друку такую літаратуру. Ды і ці варта казаць міністэрскім чыноўнікам пра пільную неабходнасць такіх падручнікаў і дапаможнікаў, калі яны пра гэта не дбаюць, а робяць наадварот: школы з міністэрства толькі што атрымалі праграмы і «Положение о физическом воспитании учащихся Белоруссии», надрукаванае на расійскай мове.

Але ў школах Маладзечна насуперак усім гэтым цяжкасцям знайшліся энтузіясты — настаўнікі фізічнага выхавання, якія ці не ўпершыню ў рэспубліцы вырашылі выкладаць свой прадмет на роднай мове. Першы з іх — сябар ТБМ Аляксандр Уладзіміравіч Страх, выкладчык сярэдняй школы № 5 нашага горада. У сваёй працы ён звяртаецца да слоўнікаў В. Ластоўскага, М. Статкевіча, тэматычных старонак газет «Наша слова», «Літаратура і мастацтва».

А нядаўна Аляксандр Страх правёў паказальны ўрок фізкультуры па-беларуску, на які былі запрошаны ўсе настаўнікі фізвыхавання горада. Урок прайшоў удала і цікава. Вучні ўважліва слухалі свайго настаўніка, разумелі яго каманды і ахвотна выконвалі фізічныя практыкаванні. Пасля ўрока адбылася зацікаўленая размова пра методыку выкладання ўрокаў фізвыхавання ў школах горада, у якой прынялі ўдзел настаўнікі, работнікі гарана, іншыя зацікаўленыя асобы. Настаўніка-наватара літаральна засыпалі пытаннямі. Нічога, зрэшты, тут дзіўнага, бо ён — першы ў горадзе правёў урок фізкультуры на роднай мове.

М. КАПЫЛОВІЧ.
г. Маладзечна.

*У суседзяў*

# ПАЧАТАК «ДЫСКУСІІ»: «БЕЛАРУСЬ — НЕВЯДОМАЯ ЗЯМЛЯ»




«Дыскусія» — так называецца беларуска-польскі грамадска-культурны часопіс, выданне якога пачалося ў Варшаве. Ініцыятарам яго стварэння стала таварыства «Помост» — арганізацыя, што ўзнікла ў 1986 годзе як нефармальная група апазіцыйна настроеных студэнтаў і маладых навукоўцаў — палякаў, украінцаў і беларусаў. Таварыства было зарэгістравана афіцыйна ў 1988 годзе. Галоўная мэта яго дзейнасці — даследаванне і вывучэнне узаемадачыненняў народа Польшчы з народамі суседніх краін, у першую чаргу Беларусі. Літвы, Украіны, і шырокае азнаямленне з гэтым польскага грамадства, стварэнне ў грамадскай свядомасці вобраза Сярэдне-Усходняй Еўропы і яе народаў.

«Што пра беларусаў і пра Беларусь ведае сярэднестатыстычны паляк? — гаворыцца ў рэдакцыйным артыкуле першага нумара часопіса.— Хіба нічога, калі не гаварыць пра некалькі цьмяных вобразаў з мастацкай літаратуры і некалькі даволі вострых з беластоцкіх і варшаўскіх базараў. Нават даволі частыя візіты ў тую — суседнюю — краіну не пашырылі гэтых абмежаваных схемамі ведаў — Беларусь злівалася ў агульным успрыманні з неабсяжнасцю ўсіх Саветаў...

З другога боку — таксама не лепш. Вобраз Польшчы і палякаў у вачах беларусаў не шмат яснейшы. Калі б запытаць, што сярэднестатыстычны беларус ведае пра свайго заходняга суседа — напэўна, пачуем больш чым ад паляка, пытанага пра Беларусь — гэта зразумела, але як аксіёму можна прыняць, што гэтыя веды з'яўляюцца раўнадзейнай многіх гадоў індактрынацыі, стэрэатыпаў, крыўдаў і нават боязі ў адносінах да магутнага суседа...

Гэтае невуцтва з'яўляецца даволі сур'ёзным, таму што зараз існуе неабходнасць супрацоўніцтва паміж абодвума народамі. І беларусы і палякі выразна адчуваюць вынікі сістэмных эканамічных і культурных перамен. Сітуацыя ў абедзвюх краінах даволі розная, але можна знайсці шмат супольных ці нават аднолькавых праблем.

Мы лічым, што кожная — хаця б найбольш сціплая культурная ініцыятыва з'яўляецца патрэбнай і карыснай. Менавіта таму мы і вырашылі выдаваць штомесячны часопіс, прысвечаны беларуска-польскім справам. Старонкі нашага часопіса будуць даступнымі для ўсіх зацікаўленых гэтай тэматыкай, а асабліва для маладой інтэлігенцыі — як беларускай, так і польскай.

Слова «дыскусія» ад самага пачатку стала нам ідэальным для акрэслення нашых намераў. Гэтае слова амаль аднолькава гучыць у абедзвюх мовах і мае такое ж значэнне. Мы хочам дыскутаваць — асабліва пра балючыя і цяжкія справы. Дзякуючы дыскусіі і абмену поглядамі, мы хочам спрыяць пераадоленню узаемных цяжкасцей. Хочам, каб дыскусія дазволіла абодвум бакам лепш паразумецца паміж сабой, а таксама лепш зразумець сябе».

Большасць публікацый новага выдання прысвечана пытанням гісторыі і культуры і змест іх можа сапраўды стаць тэмай дыскусіі. Нацыянальна-рэлігійным праблемам прысвечаны артыкул Й. Куны «Вершалін»; К. Гамулка прапануе матэрыял пад назвай «Канцэпцыі польскіх палітычных груповак у справе вырашэння аграрнага пытання на літоўска-беларускіх землях у 1918—1922 гадах». Чытачоў зацікавіць артыкул «Стаўленне ўрада Уладыслава Грабскага да беларусаў (1923—1925)», напісаны М. Куркевічам. У раздзеле рэцэнзій змешчаны анатацыі на новае польскае выданне кнігі Ю. Туронка «Беларусь пад нямецкай акупацыяй» ды на публікацыю варшаўскага штомесячніка «Дзісь» «Беларусь — невядомая зямля».

Акрамя публікацый, здольных зацікавіць як беларускіх, так і польскіх чытачоў, новае выданне мае яшчэ адну адметнасць. Частка матэрыялаў друкуецца па-польску, частка — па-беларуску, апошняя — чэшскай лацінкай.

У. ПАНАДА.

*Гісторыя Айчыны — вайскоўцам*

М. БІЧ

# Беларусы: палітычнае і эканамічнае жыццё ў складзе Расійскай імперыі

## (канец XVIII — сярэдзіна XIX ст.)

***Працягваем друкаваць раздзелы з новага вучэбнага дапаможніка для вайскоўцаў «Гісторыя Беларусі». М. В. БІЧ.***

Пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) царская ўлады ўключылі паўночную частку беларускіх зямель у Пскоўскую, а паўднёвую — у новастворaную Магілёўскую губерню. З гэтых двух губерняў было ўтворана Беларускае генерал-губернатарства. У 1776 г. з беларускіх і латгальскіх паветаў Пскоўскай губерні была ўтворана Полацкая губерня.

Уся ўлада тут перайшла да генерал-губернатара і губернатараў, якія абапіраліся на вайсковыя сілы. Па расійскім узоры тут ствараліся новыя адміністрацыйныя ўстановы — губернскія праўленні, казённыя палаты і інш. Магнаты былі пазбаўлены права трымаць свае войскі і крэпасці, шляхта — права ствараць узброеныя саюзы (канфедэрацыі). Былі ліквідаваны і мясцовыя шляхецкія сеймікі, якім да 1772 г. фактычна належала ўлада на месцах.

Па загаду Кацярыны II у верасні 1772 г. усё насельніцтва беларускага генерал-губернатарства (за выключэннем сялянства) на працягу месяца прыводзілася да прысягі. Шляхта і магнаты Беларусі ў абсалютнай большасці далі прысягу на вернасць расійскай імператрыцы. Такім чынам, яны захавалі свае маёнткі і атрымалі ўсе саслоўныя правы і прывілеі, якімі карысталася рускае дваранства.

На беларускія губерні распаўсюджвалася «Грамата на правы і выгады гарадам Расійскай імперыі» ад 21 красавіка 1785 г., якая прадугледжвала стварэнне выбарных органаў кіравання ў гарадах.

Памяркоўную палітыку праводзіла Кацярына II у адносінах да каталіцкага касцёла, улічваючы, што ўсе беларускія магнаты і буйнапамесная шляхта з'яўляліся католікамі. Было толькі забаронена схіляць у каталіцкую веру праваслаўнае насельніцтва. Праваслаўная царква і на беларускіх землях заняла пануючае становішча, яе дзейнасці забяспечвалася поўная дзяржаўная падтрымка.

Зусім іншыя адносіны праявілі расійскія ўлады да уніяцкай веры, якой у канцы XVIII ст. прытрымлівалася пераважная большасць (да 75 працэнтаў) беларускага насельніцтва. Але паколькі гэта былі «людзі простыя», то расійскі ўрад вырашыў не цырымоніцца з імі: уніятаў у масавым парадку пачалі прымусова пераводзіць у праваслаўе.

У беларускіх губернях была ўведзена і расійская падатковая сістэма. Для сялянства падымны падатак быў заменены больш цяжкім падушным. Акрамя таго, уводзіўся земскі збор. Вядома, абавязковымі для сялян заставаліся ўсе іх павіннасці, звязаныя з карыстаннем памешчыцкай ці дзяржаўнай зямлёю (паншчына, чынш, натуральныя даніны і інш.). Новай і вельмі цяжкай павіннасцю для сялян і мяшчан Усходняй Беларусі з'явіся абавязак вылучаць рэкрутаў на практычна бестэрміновую службу ў царскую армію.

Кацярына II ужо ў 70-я гады пачала шырокую раздачу зямель з прыгоннымі сялянамі рускім памешчыкам. найперш з ліку сваіх фаварытаў, военачальнікаў і буйных чыноўнікаў. Граф Завадоўскі атрымаў велізарную Магілёўскую эканомію (25860 сялян), Пацёмкін — Крычаўскае староства (14250 сялян), Зорыч — мястэчка Шклоў з ваколіцамі (11800 сялян), Румянцаў-Задунайскі — Гомельскае староства (больш за 11100 сялян) і г. д. У рукі новых уладальнікаў за кароткі час перайшло 142 тыс. сялян мужчынскага полу з агульнай колькасці 740 тыс., што складала амаль 20 працэнтаў. Раздаваліся дзяржаўныя (былыя каралеўскія) уладанні, а таксама секвестраваныя маёнткі тых мясцовых памешчыкаў, што не пажадалі прысягаць Расіі.

Пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай на тэрыторыі Цэнтральнай Беларусі была ўтворана Менская губерня. У выніку трэцяга падзелу (1795 г.) Рэч Паспалітая была ліквідавана як дзяржава. Расія захапіла Берасцейшчыну, Гродзеншчыну і Віленшчыну. У канцы 1795 г. былі ўтвораны Слонімская і Віленская губерні. У 1796—1801 гг. уся тэрыторыя Беларусі ўваходзіла ў склад трох губерняў — Беларускай, Менскай і Літоўскай. Агульная колькасць насельніцтва ў іх дасягала 4 млн. чалавек. У верасні 1801 г. урад Аляксандра I раздзяліў названыя тры губерні на пяць: Віцебскую, Магілёўскую, Менскую, Гродзенскую і Віленскую. З некаторымі зменамі ў складзе паветаў гэтыя пяць губерняў праіснавалі да 1915—1917 гг.

Пасля другога і трэцяга падзелаў Рэчы Паспалітай працягвалася раздача беларускіх зямель рускім памешчыкам. У Менскай губерні было раздадзена каля 33 тыс., у Гродзенскай — больш за 17700 душ мужчынскага полу. Буйныя маёнткі атрымалі князь Рапнін, генерал-фельдмаршал Суворaў (Кобрын і ваколіцы), Румянцаў-Задунайскі (Пружанская воласць) і г. д.

На Беларусі пад расійскім кіраўніцтвам істотна пагоршылася становішча не толькі большасці насельніцтва, а і мясцовых яўрэяў. Указам ад 23 чэрвеня 1794 г. была ўстаноўлена «мяжа яўрэйскай аселасці», куды ўключаліся прыбалтыйскія, беларускія і ўкраінскія губерні. Указ пазбаўляў яўрэяў права на пастаяннае пражыванне ў расійскіх губернях і гарадах. Але і ў раёне аселасці ім забаранялася жыць за межамі гарадоў і мястэчак. З яўрэйскіх мяшчан — рамеснікаў і купцоў — спаганяліся ўдвая большыя дзяржпадаткі, чым з хрысціянскіх. Адразу пасля гэтага ўказа на Беларусі пачалося прымусовае высяленне яўрэяў з вёсак і памешчыцкіх маёнткаў у гарады і мястэчкі.

У сацыяльнай палітыцы царызму на Беларусі яскрава выяўляўся яе феадальна-прыгонніцкі характар. Адпаведныя законы і пастановы забяспечвалі дыктат памешчыкаў над сялянамі, выкананне імі ўсіх павіннасцей на карысць паноў. Памешчыкі Беларусі атрымалі права прадаваць сялян без зямлі. Рускім памешчыкам на Беларусі дазвалялася аддаваць у рэкруты мясцовых сялян замест сваіх расійскіх прыгонных.

У першай палове XIX ст. Беларусь адносілася да рэгіёнаў, дзе панавала буйнапамеснае дваранскае землеўладанне. У найбуйнейшых памешчыцкіх гаспадарках тут налічваліся дзесяткі тысяч дзесяцін зямлі, многія тысячы прыгонных. Памешчыкі інтэнсіўна пашыралі плошчу сваіх ворных зямель, стваралі новыя фальваркі на асвоеных сялянамі пустках і высечках лесу. Для апрацоўкі гэтых зямель сяляне ў масавым парадку пераводзіліся з чыншу (грашовага аброку) на паншчыну.

Асновай гаспадаркі з'яўлялася земляробства, найперш вытворчасць зерня. Галоўную частку сваіх даходаў (70—80 працэнтаў) памешчыкі атрымлівалі ад продажу на рынку земляробчай прадукцыі. Астатнюю долю складалі паступленні ад сялян у выглядзе чыншу, натуральных данін, а таксама продажу прадуктаў жывёлагадоўлі, арэнды млыноў, корчмаў і г. д. Хутка раслі пасевы бульбы. К 40-м гадам XIX ст. яна стала адной з найважнейшых даходных культур. Жыта і бульба ў значнай частцы перапрацоўваліся на спірт. У пачатку XIX ст. на Беларусі налічвалася больш за 6 тыс. вінакурняў (бровараў). Амаль усе яны належалі памешчыкам.

Але пануючай сістэмай земляробства заставалася трохполле. Маючы ў сваім распараджэнні сотні і тысячы прыгонных, буйныя памешчыкі не былі зацікаўлены ў набыцці сучаснай тэхнікі і палепшаных прылад працы, а таксама ў пераходзе на вольнанаёмную працу, паколькі гэта рэзка павышала вытворчыя выдаткі. А ў дробных памешчыкаў не было сродкаў на рэарганізацыю гаспадарак. Праўда, у буйных маёнтках усё часцей выкарыстоўваліся малацілкі, веялкі, сячкарні, радзей — сеялкі, жнейкі, а пазней — плугі і бароны. Гэта паскарала вытворчы працэс, збор і апрацоўку сабранага ўраджаю, але не магло прадухіліць паглыбленне крызісу феадальна-прыгонніцкага ладу. Вольны наём у сельскай гаспадарцы практыкаваўся спарадычна. Гаспадарка пераважнай большасці дробных памешчыкаў па-ранейшаму мела амаль натуральны характар.

Асновай гаспадаркі селяніна з'яўляўся зямельны надзел, які ён атрымліваў у карыстанне ад землеўласніка-памешчыка або дзяржавы пры ўмове адбывання павіннасцей на карысць землеўладальнікаў. У сувязі з гэтым сяляне дзяліліся на дзве асноўныя катэгорыі — памешчыцкіх і дзяржаўных (казённых). Абсалютную большасць складалі сяляне, што належалі памешчыкам: 79,8 працэнта ў 1812 г. і 64,6 працэнта ў 1845 г. Каля 3,4 працэнта сялян у канцы 50-х гадоў належалі да дваровай прыслугі і не мелі надзелаў. Удзельная вага памешчыцкіх сялян на Беларусі ў 1857 г. была на 16,3 працэнта большая, а казённых — на 15,1 працэнта меншая, чым у Расіі.

Зямельныя надзелы большасці сялянскіх двароў складалі ад 1/2 да 1 валокі (11—22 дзесяціны). Зямлю аралі драўлянай сахою з жалезным наканечнікам (на поўдні — валамі, на поўначы — коньмі), баранавалі драўлянай бараною, ураджай збіралі сярпамі або косамі, малацілі цапамі.

Сялянская гаспадарка ў тыя часы была вымушана арыентавацца на самазабеспячэнне ўсім неабходным. І селянін сам ці з дапамогай родзічаў, сваякоў, суседзяў будаваў жыллё, хлеў, гумно, вырабляў прылады працы (саху, барану, цэп, прасніцу, кросны), хатнюю мэблю (стол, лаўкі, ложкі), разнастайны гліняны, драўляны і плецены посуд, вопратку, абутак, транспартныя сродкі — воз, сані, вупраж і г. д. Металічныя прылады (сякеры, малаткі, сашнікі, сярпы, косы) вырабляліся спецыялістамі-кавалямі ў сельскіх кузнях. Прызнаныя майстры вывозілі сваю прадукцыю і на рынак, хадзілі па вёсках, прапаноўвалі свае паслугі. Акрамя кавальскага, да такіх спецыялізаваных хатніх промыслаў адносіліся цяслярны, сталярны, ганчарны, кравецкі, шавецкі і інш.

Па патрабаванні памешчыка ці з яго дазволу сяляне адпраўляліся і ў адыходныя промыслы — на высечку і вываз лесу, лесасплаў, выкурку смалы, дзёгцю, будаўніцтва шашэйных дарог, а з сярэдзіны 30-х гадоў XIX ст. — і чыгунак, найчасцей на землякопныя работы. У прыватнасці, пры значным удзеле беларускага сялянства былі пабудаваны першыя чыгункі ў Расіі — Царскасельская (1835—1838 гг.), Пецярбургска-Маскоўская (1843—1851 гг.), Пецярбургска-Варшаўская (1852—1862 гг.). Аднак адыходныя промыслы не набылі на Беларусі прыкметных маштабаў з прычыны незвычайна шырокага распаўсюджання тут паншчыны. У 80-я гады XVIII ст. у ВКЛ на паншчыне знаходзілася 72 працэнты прыватнаўласніцкіх сялян. У 50-я гады XIX ст. паншчынныя сяляне на Беларусі складалі больш за 97 працэнтаў памешчыцкіх прыгонных. Гэта адзін з найвышэйшых паказчыкаў у Расійскай імперыі.

Становішча казённых сялян на Беларусі да сярэдзіны 40-х гадоў амаль не адрозніваліся ад памешчыцкіх, бо тут дзяржаўныя маёнткі здаваліся ў арэнду, і гаспадарка ў іх вялася на аснове паншчыны і іншых адпрацовачных павіннасцей.

Заняпад казённых маёнткаў, збядненне пераважнай большасці сялян і немагчымасць спагнання з іх дзяржаўных падаткаў прымусілі ўрад у канцы 30-х гадоў прыняць поўныя меры з мэтай выхаду з крызісу. Ініцыятарам рэформаў выступіў граф П. Кісялёў, прызначаны ў 1836 г. міністрам дзяржаўных маёмасцей. Крыху раней ён распрацаваў прынцыпы кіравання маёнткамі, секвестраванымі ў заходніх губернях ва ўдзельнікаў паўстання 1830—1831 гг. На іх аснове было падрыхтавана і ў снежні 1839 г. падпісана Мікалаем I «Палажэнне аб кіраванні дзяржаўнымі маёмасцямі ў Заходніх губернях і Беластоцкай вобласці».

Мэтай рэформы з'яўлялася павышэнне дзяржаўных даходаў, чаго нельга было дамагчыся без спынення паўперызацыі сялян, ліквідацыі свавольства арандатараў маёнткаў і павелічэння колькасці цяглых сялянскіх двароў, здольных выконваць адпаведныя павіннасці і плаціць устаноўленыя падаткі на карысць дзяржавы. У сувязі з гэтым прадугледжвалася люстрацыя (падрабязнае апісанне) усіх дзяржаўных маёнткаў і рэарганізацыя кіравання імі, строгая рэгламентацыя павіннасцей сялян у залежнасці ад іх гаспадарчага становішча.

10 красавіка 1844 г. Мікалай I зацвердзіў прапановы Кісялёва аб пераводзе на чынш дзяржаўных маёнткаў Віленскай, Гродзенскай, Ковенскай і Мінскай губерняў, а 4 чэрвеня 1845 г. — Віцебскай і Магілёўскай губерняў. Замена паншчыны чыншам ажыццяўлялася паступова на працягу 6 гадоў. Прадугледжвалася павелічэнне зямельнага надзелу да нормы, устаноўленай законам аб люстрацыі, у тым ліку бабылям і агароднікам, а таксама выдача дапамогі сялянам на набыццё рабочай жывёлы. Адмяняліся даніны, дадатковыя работы (шарваркі і інш.). У маёнтках, дзе часова захоўвалася паншчына, забаранялася адбіраць сялянскія надзелы, павялічваць павіннасці і прымушаць сялян працаваць на ўласнай зямлі арандатара.

Рэформы П. Кісялёва 1839—1845 гг. істотна палепшылі становішча дзяржаўных сялян на Беларусі. Паводле дадзеных на 1854 г., зямельныя надзелы сялян Віленскай, Мінскай і Гродзенскай губерняў павялічыліся на 30—35 працэнтаў пры адначасовым змяншэнні павіннасцей на 29—52 працэнты.

Рэформамі крызіс феадальна-прыгонніцкіх адносін у казённай вёсцы на Беларусі быў часова пераадолены. Але не менш вострым заставалася пытанне аб узаемаадносінах памешчыкаў і іх прыгонных сялян. Шэф жандармаў Бенкендорф у 1839 г. дакладваў цару, што прыгоннае становішча ёсць «парахавы склеп пад дзяржавай», і раіў прыняць меры з мэтай аслаблення супярэчнасцей паміж сялянамі і памешчыкамі. Мікалай I уседамляў, што «прыгоннае права ёсць зло», але імкнуўся вырашыць пытанне паліятыўнымі мерамі.

*(Працяг будзе.)*

## Вучымся!

*Удакладнім*

# Знакі прыпынку пры аднародных членах сказа

## Аднародныя члены з супастаўляльнымі злучнікамі

1. Пры дапамозе супастаўляльных злучнікаў **а, але, ды, аднак, толькі** і інш. звязваюцца два аднародныя члены сказа, паміж якімі звычайна ставіцца коска: *З печы дым не ў комін, а пад столь нясе* (Янка Купала). *Месяц свеціць, ды не грэе* (Прыказка). *У хаце цесна, затое весела* (І. Мележ). *Дзяўчына маўчала, толькі ўсміхалася* (Кузьма Чорны).

Коска ставіцца толькі паміж аднароднымі членамі, якія звязаны пры дапамозе парных супастаўляльных злучнікаў **не толькі — а(і), не толькі — але (і)**, напрыклад: *Дэталі можна не толькі выточваць, а і штампаваць* (У. Шахавец).

Калі супастаўленне аднародных членаў аформлена пры дапамозе злучнікаў **і, ды**, то паміж гэтымі членамі коска не ставіцца: *Нешта хацела сказаць Ірына і не паспела* (М. Лынькоў). *Лабановіч хацеў чытаць і не мог* (Якуб Колас), *Ён рабіў ды не зрабіў* (Змітрок Бядуля).

У супастаўляльных злучніках **не то што — а, а не то што** коска ставіцца толькі паміж аднароднымі членамі (перад **што** коска не ставіцца), напрыклад: *Мы не то што вожыка, а зайца бачылі* (Янка Маўр). *Пасля аперацыі і бугай галавы не падніме, а не то што слабая карова* (Кузьма Чорны).

Калі аднародныя члены звязаны пры дапамозе злучальнага слова **наадварот**, якое сумяшчае і пабочную функцыю (пабочнае слова), то коска ставіцца не толькі перад гэтым словам, але і пасля яго: *Мужчыны ў сварках не ўдзельнічалі, наадварот, станавіліся яшчэ дружнейшымі* (І. Мележ). Але:*Дзед не ўзлаваўся, а наадварот* (Змітрок Бядуля), дзе слова **наадварот** замяшчае адсутныя аднародныя члены сказа, а таксама: *Бацька сек ды пілаваў дровы і наадварот* (М. Гарэцкі).

2. Калі супастаўленне аднародных членаў у сказе мае рэзка антанімічны характар, то пасля злучнікаў ставіцца працяжнік, а перад злучнікамі — коска: *Не пракосы, а — палосы выжынае гладка сталь* (П. Глебка). *Невялічкая, але — бурная рэчка пеніцца між скал* (Э. Самуйлёнак). *Жанчына вельмі стамілася, аднак — усміхаецца* (Б. Мікуліч).

3. Калі супастаўленне аднародных членаў у сказе падаецца ў форме лагічна падкрэсленай неадпаведнасці, то перад злучнікамі ставіцца працяжнік: *Бабка спіць — а гусей пасе* (Змітрок Бядуля). *Хлопчык хацеў папярэдзіць аб небяспецы — але не паспеў* (Янка (Маўр). *Ён абяцаў Тамары сукенку купіць — і не купіў* (І. Гурскі). *Не Марс да нас — а мы, сябры, цяпер бліжэй да Марса* (А. Вялюгін). *Селянін хацеў нешта сказаць — аднак стрымаўся* (Міхась Чарот).

## Аднародныя члены з размеркавальнымі злучнікамі

1. Калі аднародныя члены звязаны пры дапамозе адзіночных размеркавальных злучнікаў **ці, або (альбо), ці то, не то**, то паміж гэтымі членамі знакі прыпынку не ставяцца: *Ён спакойна курыць ужо трэцюю ці чацвёртую папяросу* (І. Шамякін). *Цэлы дзень па шашы ішлі або ехалі розныя людзі* (П. Пестрак). *Штосьці яшчэ стукае ці то звоніць* (Кузьма Чорны). *Яго згубілі ў полі не то ў лесе* (М. Зарэцкі).

**Заўвага 1.** Калі адзіночныя злучнікі ўжываюцца толькі перад апошнім з аднародных членаў, а папярэднія звязаны **бяззлучнікавым** спосабам, тады **бяззлучнікавыя** аднародныя члены **аддзяляюцца адзін ад другога** коскай: *Кругом раслі бярозы, асіны ці вольхі* (Якуб Колас). *На лузе мільгалі чырвоныя, жоўтыя, белыя або сінія хусцінкі* (Т. Хадкевіч).

**Заўвага 2.** Калі апошні з аднародных членаў у радзе суправаджаецца пытальнай інтанацыяй і выражаецца часціцамі **што** або **не**, то перад размеркавальнымі злучнікамі ставіцца коска: *Нехта ідзе, ці што?* (Э. Самуйлёнак). *Гэта праўда, ці не?* (А. Куляшоў). Але калі пытальнай інтанацыяй суправаджаюцца ўсе аднародныя члены, тады коска паміж імі не ставіцца: *Ехаць ці што?* (М. Зарэцкі). *Выйдзе з гэтага толк ці не?* (Цішка Гартны).

**Заўвага 3.** Коска ставіцца паміж двума аднароднымі членамі, якія звязаны пры дапамозе злучніка **ці** ў спалучэнні з узмацняльнай часціцай **а**, напрыклад: *Нападала роспач, а ці змора* (П. Броўка).

2. Калі аднародныя члены ў сказе звязаны адзіночным злучнікам **а то**, тады паміж імі заўсёды ставіцца коска: *Андрэй гаварыў мала, а то ўсё маўчаў* (Кузьма Чорны). *Ракі мясціліся ў старых карчах, а то глыбока пад берагам, у спецыяльных норах — пячурах* (М. Лынькоў). *Бабы сварацца год, год з палавінаю, а то і цэлых тры* (Якуб Колас).

3. У тых выпадках, калі аднародныя члены звязаны паўторнымі злучнікамі **і—і, ні—ні, ці—ці, або—або (альбо—альбо), ці то—ці то, не то—не то**, яны часцей за ўсё аддзяляюцца адзін ад другога пры дапамозе коскі: *І летні гром, і галасы заводаў напевам гучным над зямлёй дрыжаць* (У. Хадыка). *Ні месяца, ні зорак не было відаць за густымі хмарамі* (Якуб Колас). *То разбяжыцца, то пухам засцелецца хітрая мяцеліца* (П. Броўка). *Цясляр ці з пілкай ходзіць, ці з сякерай* (А. Куляшоў). *Або пазалотай, або сінім шоўкам разатку ўзорна паясок яму* (Максім Танк).

**Заўвага.** Аднародныя члены з паўторнымі злучнікамі ў сказе могуць адасабляцца (тады яны аддзяляюцца ад агульных для іх слоў сваімі знакамі прыпынку), напрыклад: *Над рэчкай стаялі кусты, то там, то сям* (Б. Мікуліч). *Цівун, бывала, заказвае ўсё — то на работу, то на сход, то яшчэ на якую бяду* (Кузьма Чорны). *А агнёў на пуці не злічыш: і белыя, і зялёныя, і чырвоныя* (М. Лынькоў).

4. Калі пры дапамозе паўторных злучнікаў **і—і, ні—ні, то—то, ці—ці, або—або** аб'яднаны два (радзей тры) аднародныя члены, якія не маюць пры сабе паясняльных слоў і цесна звязаны па сэнсу і інтанацыі, то паміж гэтымі членамі знакі прыпынку не ставяцца: *Рэспубліка ў новыя строі і горад і вёску адзела* (П. Глебка). *Ні мне ні табе машына не трэба* (Кузьма Чорны). *Пад гэты гром, пад дождж упарты, то тут то там пачуеш жарты* (Якуб Колас). *Ці вясною ці ўлетку шмат народу на палетку* (А. Русак). *І швец і жнец і на дудзе ігрэц* (Прыказка).

Але калі пры аднародных членах у сказе ёсць паясняльныя словы, тады гэтыя члены звычайна аддзяляюцца адзін ад другога пры дапамозе коскі: *Мама і хату разы два перамяла, і стол новым настольнікам заслала* (Я. Брыль). *Ні ліўні з вятрамі, ні снег нам не дзіва* (К. Кірэенка). *То ў роспачы, то ў крыўднай злосці павышалі яны свае галасы* (К. Чорны). *Рыгор ці жартаваў, ці не адказваў нічога* (Цішка Гартны).

5. Калі паўторныя злучнікі **і—і, ні—ні** звязваюць два аднародныя члены, якія **маюць супрацьлеглыя значэнні і ўтвараюць непадзельныя выразы, то паміж гэтымі** членамі знакі прыпынку не ставяцца. Такімі выразамі з'яўляюцца: *І так і сяк, і туды і сюды, і тут і там, і нашым і вашым, і дома і замужам, і смех і гора, ні жывы ні мёртвы, ні ладу ні складу, ні сват ні брат, ні ў кола ні ў мяла, ні гневу ні ласкі, ні слуху ні духу, ні дому ні лому, ні рыба ні мяса, ні спору ні ўмалоту, ні грозьбай ні просьбай, ні канца ні краю, ні ўзад ні ўперад, ні ў пяць ні ў дзесяць* і г. д.

Калі ж падобныя выразы інтанацыйна і па сэнсу чляняцца, тады паміж аднароднымі членамі ставіцца коска: *І тут, і там чуліся песні* (Міхась Чарот). *Ніхто не дадаў больш ні слова, ні гуку* (М. Лынькоў). *Цераз мост ні ўдзень, ні ў ноч не пераставалі бегчы грузавікі* (І. Грамовіч). *Амаль што цэлая аўчына пайшла на шапку, з якой Астап не расставаўся ні зімой, ні летам* (М. Лынькоў).

6. Калі тры аднародныя члены звязаны парнымі злучнікамі **ці—або, або—ці**, то паміж гэтымі членамі знакі прыпынку не ставяцца, напрыклад: *У кожнага партызана была вінтоўка або аўтамат ці пісталет* (М. Лынькоў). *Летам хлопчык хадзіў у ягады і грыбы ці гуляў з дзецьмі на вуліцы або купаўся з імі ў возеры* (У. Краўчанка). *Камендант ездзіў у танку альбо ў браневіку ці ў браніраваным транспарцёры* (К. Чорны).

# Ашануйце беларускіх расіянаў

На Беларусі, як вядома, жыве каля паўтара мільёна расійцаў, расіянаў. Рускімі я іх назваць не магу, бо мы, беларусы, якраз і ёсць рускія, як даўней называлі — русіны. А гэтыя паўтара мільёна — расійцы, маскоўцы з расійскіх абсягаў. І родная мова іхняя — маскоўская, расійская — не патрабуе якіхсьці новых азначэнняў. Яна сапраўды прыгожая, добра распрацаваная, мае сваю моц, сваю...

І вось гэтыя паўтара мільёна расійцаў, хочуць яны гэтага ці не, але з цягам часу мусяць яшчэ ведаць і нашу, бела — рускую (слова беларускую я наўмысна расчляняю працяжнікам, каб і беларусы, і расійцы, і ўвесь свет ведалі, што наша беларуская мова спрадвеку руская; яна заснавана на гаворках нашых продкаў — крывічоў, радзімічаў, дрыгавічоў).

І нічога крамольнага ў тым, каб паўтара мільёна беларускіх расійцаў спазналі нашу мову, вядома ж, няма. Але, даражэнькія, што ж мы за мову прапануем беларускім расіянам? Яна ж уся знявечаная, скалечаная. Выконваючы ідэалагічную ўстаноўку на зліццё моў, у беларускую мову нахрапам напхалі сотні слоў, расхісталі яе сінтаксіс, марфалогію. Цяпер скрозь пішуць: *прадставіць, прадстаўленне, рабяты, рэзультаты, веруючыя і няверуючыя, бягучы год, лечачы ўрач, падвяргацца, знамянальны, устройства, пішучая машынка, унушальны, цялесныя пашкоджанні, праезжая частка, Андруша, Сярожа, учот, урон, страсці, ушчамленне, абстаяць справы, у курсе спраў, крайне* і шмат іншага.

А ўсё ж гэтыя словы і спалучэнні, колькі іх ні пішы, колькі разоў ні паўтарай, усё роўна вытыркаюцца, выбіваюцца з мелодыкі нашае мовы, не маюць у яе слоўнікавым складзе сваіх гнёздаў.

Я разумею тых беларускіх расійцаў, якія прагівяцца вывучаць менавіта такую мову. І напраўду, навошта расійцу такая мова. Ён з малаком маці засвоіў мяккае «р» — *представить, представление, ребята*, а яму прапануюць ламаць сябе, вымаўляць гэтыя словы з зацвярдзелым «р« — *прадставіць, прадстаўленне, рабяты* —і называць гэта беларускай моваю. А якраз такую скалечаную мову і прапануюць шмат якія нашы газеты, часопісы, радыё, тэлебачанне. То ад такой мовы і напраўду адверне. А наша мова мела і мае для ўсіх згаданых паняццяў свае, натуральныя, прыродныя словы. Скажам, замест *слова прадстаўляецца* па-беларуску трэба сказаць: *слова мае, слова даецца* ці проста: *слова спадару Луцкевічу*. Для расійскага *представление* (зрелище) беларуская мова мае *пастаноўку, відовішча, паказ* і яшчэ штосьці, калі пашукаць.

І для *представить* у значэнні *пазнаёміць* наша мова даўно мае свае формы. Гэта і *пазнаёміць, адрэкамендаваць. Представьтесь — назавіцеся, назавіце сябе. Представить в учреждение бумагу, документы — падаць.*

Адным словам, наша мова мае багата натуральных формаў для расійскіх адпаведнікаў. То дайце ж адчуць натуральны водар нашай мовы і сабе, і ўсім, хто жыве на нашай зямлі, хто хоча далучыцца да сапраўднай мовы беларусаў, а не той, скалечанай, да якой многія з нас прызвычаіліся і не адчуваюць гэтага калецтва. Але, калі мы не адчуваем самі, то гэтае калецтва адчуваюць беларускія расійцы, расіяне. Ім ніяк не выпадае з *представления* пераходзіць на *прадстаўленне*. Ім такая мова не патрэбна. І нам таксама.

**У. СОДАЛЬ.**

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ ў пытаннях і адказах

## Калі пасяліліся на Беларусі расейцы?

У Маскоўскай дзяржаве спрадвеку панавалі парадкі, пры якіх не дазвалялася аніякага рэлігійнага або іншага вальнадумства, а чалавечае жыццё зусім не мела каштоўнасці. Нават самыя знакамітыя баяры мусілі называць сябе «холопами государевыми».

Вялікае Княства Літоўскае у адрозненне ад ўсходняга суседа было краінай верацярпімаю. Хоць часам сутычкі паміж вернікамі розных канфесій і здараліся, але на працягу стагоддзяў у нашай дзяржаве мірна жылі побач праваслаўныя і каталікі, вуніяты і юдзеі, пратэстанты і мусульмане. Шляхта, што складала ў нас блізу 15 працэнтаў жыхарства, мела шырокія грамадзянскія правы. Статут 1588 года, паводле якога жыла нашая Бацькаўшчына, быў дэмакратычным у адрозненне ад расейскіх законаў.

Нядзіва, што з канца XV стагоддзя жыхары Масковіі пачалі перасяляцца на беларускія землі. Сюды ўцякалі ад пераследу апальныя князі і вальнадумцы. Пад Віцебскам жыў, напрыклад, вядомы расейскі прапаведнік Фядосій Касой. Ад цара Івана Жахлівага ўцёк у Вялікае Княства князь Андрэй Курбскі.

З другой паловы XVII стагоддзя ў Беларусь ад здзекаў і ўціску перасяляюцца дзесяткі тысяч расейскіх стараабрадцаў. Каб вярнуць уцекачоў, расейскі ўрад наладжваў карныя экспедыцыі. Вядома, што ў 1735 годзе царскі палкоўнік Сыцін напаў на памежны беларускі горад Ветку, дзе сяліліся стараверы, і пагнаў 14 тысяч перасяленцаў назад у Расею.

У Беларусі знаходзілі прытулак і тыя сяляне ды гараджане, што ратаваліся ад дзікага маскоўскага беззаконня і жорсткага феадальнага ўціску. Гэтак, у другой палове XVIII стагоддзя яны ўцякалі сюды сотнямі тысяч. Урад імператрыцы Лізаветы Пятроўны ў 1754 годзе вымагаў ад уладаў Вялікага Княства вярнуць мільён (!) уцекачоў.

Калі беларускія землі былі захопленыя Расеяй, перасяленне набыло зусім іншы характар. Царскія ўлады пачалі накіроўваць сюды святароў і чыноўнікаў дзеля ажыццяўлення сваёй імперскай палітыкі. Асабліва масавым такое перасяленне зрабілася пасля нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863 года. Усе дзяржаўныя пасады маглі займаць толькі расейцы. Яны мелі павышаныя аклады, разнастайныя прывілеі і былі чыннымі русіфікатарамі і праваднікамі гэтай палітыкі. Істотным фактарам русіфікацыі з'яўлялася і расейскае войска, шматлікія гарнізоны якога пастаянна размяшчаліся ў беларускіх гарадах і мястэчках.

Такая практыка захоўвалася і ў савецкай імперыі. Пасля Другой сусветнай вайны на Беларусь абрынулася новая магутная хваля перасяленцаў з Расеі. Камуністычныя ідэолагі адводзілі ім важную ролю ў канчатковай русіфікацыі Беларусі і стварэнні «новой этнической общности» — бяспамятнага, абязмоўленага народа, з якім можна праводзіць любыя эксперыменты.

**Уладзімір АРЛОЎ.**

*Каляндныя чытанкі*

*Іван ШТЭЙНЕР*

# Малітва на матчынай мове

«На пачатку было Слова, і Слова было ў Бога, і Слова было Бог...» І пры канцы ўсяго — і чалавека і сусвету — будзе слова (чалавечае) і Слова (Божае). Знак першага — у чалавека перад сканаплем займае мову, бо слова яму спатрэбіцца крыху ці значна пазней, калі пачнецца ўзважвацца і вызначацца вартасць яго зямнога існавання. Знакам другога могуць стаць існыя знаменні, значныя і велічныя, сілу якіх мы падсвядома адчуваем, але не заўсёды можам адзначыць і спасцігнуць.

І як кожнаму чалавеку, так кожнай нацыі даецца пры нараджэнні і адымаецца пры сканапні Мова. І толькі адзін Бог захавае памяць пра яе, бо толькі на гэтай Мове будзе трымаць справаздачу свайго існавання зніклая нацыя, што з кожным чалавекам паасобку адышла ў нябыт.

Вось чаму слова назаўсёды застаецца ў сваёй пастаяннай нязменлівасці, нягледзячы на ўсе намаганні — часу і чалавека — надаць яму новую, неўласцівую яму сутнасць. Як дыямент, які, хоць набыў праз аграненне бляск, зіхаценне, унутрана застаецца першародным алмазам, так і словам не схаваеш ісціну, бо яно ісцінна само па сабе. У слове — музыка, сэнс, у слове — вера і адвечная таямніца, бо яму наканавана быць Словам — пасрэднікам паміж чалавекам і Богам.

Ці не таму ў падсвядомасці кожнай зямной мовы і яе носьбітаў існуе не заўсёды асэнсаванае і аргументаванае сумненне ва ўласных сілах і вартасцях, падуладнасці гэтай наканаванасці, а разам з тым здольнасці выканаць адвечнае прадвызначэнне і, як вынік,— добраахвотна-прымусовы зварот да сілавога поля больш магутных моваў. Падобныя сумненні шматразова павялічваюцца, калі гаворка заходзіць пра мовы, якім адмаўляецца нават права на існаванне ў справаводстве, навуцы і штодзённым побыце, што добра відаць на прыкладзе стану нашай мовы. Беларус даўно ўжо пазбавіў сваю мову арэолу таемнасці і святасці, і, здаецца, ужо нішто, нават шматлікія спасылкі на подзвіг Ф. Скарыны, С. Буднага, В. Цяпінскага, не кажучы пра святых Ефрасінню і Кірылу, не ўстрывожыць адпаведныя струны яго душы.

Якраз у такіх варунках новага гістарычнага існавання беларусаў, якія яшчэ канчаткова не вызначыліся, каму служыць — Богу ці мамоне, выразна схіляючыся да каўбаснага варыянта апошняй і тым самым амаль адмаўляючы агульнанацыянальны зварот да Госпада, народны паэт Рыгор Барадулін узнаўляе класічныя еўрапейскія і нацыянальныя традыцыі ўвасаблення спрадвечнай ісціны («Трыкірый» — «Полымя», 1993, № 7):

Трыкірый —  
Тры свечкі святла  
Айца й Сына й Духу святога.  
Тры полымі вера звяла  
У полымя сэрца Бога.

Даволі своеасаблівымі ўяўляецца кожная са свечак, запаленых талентам і натхненнем паэта. Так, з усяго Новага Запавету ён звяртаецца не да яскравы-жахлівых старонак Апакаліпсісу ці шчымлівай шчырасці Евангелляў, а спрабуе прайсці следам апостала Паўла, зразумець урокі гэтай супярэчлівай натуры. У вобразе Саўла, які выганяў хрысціян, а пасля знамення стаў менавіта шчырым неафітам, адэптам новага вучэння і, урэшце, Паўлам, які пакінуў пасля сябе найбольш яскравыя пасланні слова Божага, беларусу бачыцца вельмі многае: «Бо, калі я малюся на незразумелай мове, то, *хаця* дух мой *і* моліцца, але розум мой застаецца няплодным» (1-е пасланне карынфянам, 14, 14), Р. Барадулін па-свойму пераўтварае гэтыя радкі:

Хоць прысак у прыцемку не атух,  
Халаднавата вуголлям  
галодным,  
У незнаёмай мове моліцца дух,  
Але застаецца розум халодным,

Халаднавата сэрцу ў мове чужой,  
Нібыта ў неасвечаным храме,  
Што поўніцца неабжытай імжой  
І неўсвядомленымі дарамі.

Малітва на матчынай мове адна  
І Госпаду, й зорам, і ніцым  
лозам —  
Усім зразумела будзе да дна,  
І ўсцешыць, і разварушыць  
розум.

«Але ў царкве хачу *лепш* пяць слоў сказаць розумам сваім... чым тысяча слоў на незразумелай мове» (1-е пасланне карынфянам, 14, 19). Згаданыя словы Р. Барадулін не цытуе, але ў кожнай з трох (!) строф кожнага твора адчуваецца прыхаваная, унутраная палеміка з тымі, хто не верыць у мажлівасць «сялянскай» беларускай мовы загаварыць такім высокім стылем. Народны паэт свядома падкрэслівае зямныя вытокі беларускіх слоў, ён нават адмаўляецца ад высока распрацаванай стараславянскай лексікі ці яе скарынаўскіх варыянтаў. І ў гэтым ён надзвычай блізкі галоўным запаветам хрысціянства. Так, у свой час Збавіцель ведаў, што сваё асноўнае прызначэнне ён будзе выконваць не сярод фарысееў і кніжнікаў, а сярод рамеснікаў, якім і ён быў пэўны час, ратаяў, рыбакоў, людзей, якія будуць гаварыць аб сваіх штодзённых турботах, клапаціцца аб тым, ці ўзыдзе пасеянае жыта, ці хопіць яму дажджу, сачыць за надвор'ем, каб убачыць загадзя буру, ці саранчу, што нясе патэнцыяльную шкоду чалавеку. Ён разумеў, што стане даступным людзям толькі тады, калі звернецца да іх са Словам, зразумелым ім. Для людзей, усё жыццё якіх звязана з адмысловым сялянскім укладам, усе асноўныя пастулаты новай дамовы Збавіцель увасабляе ў звыклых этапах адвечнага кругабегу земляроба: «Я ёсць хлеб жыцця...» Р. Барадулін адчувае ўнутраную адпаведнасць падобнага разумення вечнай існасці і ў светаўспрыманні беларусаў. Вачыма касца ён успрымае змену пакаленняў («Луг памяне атаваю пакошу»), вачыма сяўца — веру ў лепшае («І на заснежаную араллю Вадзіў басанож надзею»), душою земляроба — закон вечнасці («Надзеяй жыве хлебароб, хлебараб у Рабстве надзённага хлеба»). Аднак самае галоўнае — ён падкрэслівае незвычайную адпаведнасць хрысціянскіх ідэалаў нацыянальнаму духоўнаму вобліку беларусаў з іх талентнасцю, цярпімасцю, надзеяй, любоўю. Падчас амаль тэкстуальна пераўтварае адпаведныя радкі Пасланняў Паўла Р. Барадулін («І мёртвымі будзьце для грэху, Жывымі — для Бога, ў Хрысце» — «Да рымлянаў», 7, 4), («Радуйцеся з тымі, хто радуецца, Плачце і з тымі, хто плача» — «Да рымлянаў», 12,15), («Надзею майце, як якар душы» — «Да рымлянаў», 12). Нягледзячы на тое, што «Завершыць труна прастакута Крывыя дарогі жыцця», беларускі паэт бачыць радасць у гэтым існаванні. Таму ён, у адпаведнасці з традыцыяй, звяртаецца непасрэдна да ўсіх, каму выпала шчасце жыць на гэтым свеце:

Прыйшлі, каб пайсці са  
сваёй таемнасцю.  
Рухавы туман растане.  
Дык хоць саміх сябе ўзаемнасцю  
Сагрэйце на развітанне.

Бо толькі тады, калі «кожнаму ягоны грэх залічыцца За ваду вадой, крывёй за кроў», калі «душа аднаверніца Споўніць свой абавязак», бо, нарэшце, зразумее, што «ўсё відочнае — часовае. А невідочнае ўсё — вечнае», што «мы не прынеслі на свет нічога і вынесці, значыць, нічога не можам», знішчыцца апошні вораг чалавечы — Смерць. Многія з гэтых думак набываюць сваё сапраўды афарыстычнае ўвасабленне.

Вобразнасць, метафарызацыя дапамагаюць Р. Барадуліну перайсці да ўвасаблення больш складаных аспектаў Старога Запавету, сярод якіх, зразумела, выключнае месца займае Еклесіаст, XII глава якога ва ўзнёслай паэтычнай форме ўвасабляе паступовы прыход старасці, а затым і самой смерці чалавека. Згадаем, як жа ўспрымае мудры Саламон гэтыя з'явы: «У той дзень, калі задрыжаць тыя, хто вартуе дом» (рукі і ногі), «перастануць малоць тыя, што мелюць» (зубы), «зацемняцца тыя, што глядзяць у вакно» (вочы), «калі чалавек будзе ўставаць з крыкам пеўня» (старэчая бяссонніца), «зацвіце міндаль» (сівыя валасы)... Выключна паэтычным успрымаецца сусвет Барадуліна: («прыцемкі — паслугачы начы Гоняць стому з пасвішчаў дадому»), «круціць час туману самакрутку. Завітаўшы на луг на бягу», «і старасці зірк варожы, і сталасці ціхі пагляд»). Якраз магутнае валоданне родным ловам, адчуванне ўсіх яго адценняў і дапамагае беларускаму паэту ў поўнай адпаведнасці з нацыянальнымі адметнасцямі ўспрыняць і ўзнавіць адвечныя ісціны. Перад жахлівасцю ямы, што «пазяхае спрасоння» і не адрознівае — бедны розумам ці багаты, калі «не насыціцца бачаннем вока, не напоўніцца слуханнем вуха», калі бачыцца толькі дарога, «па якой знікаем зрэшты ўсе», становіцца нястрымным страх: «і прахам зробіцца прах, бо прахам ён быў спачатку». Р. Барадулін яшчэ раз згадвае вечныя ісціны: «Не прасі заставацца ўдачу. Не малі затрымацца хвалю, Сэрца мудрых — у доме плачу, неразумных — у доме балю». Бо на кругі свае вяртаецца вецер з пакораю, бо няма пра былое памяці, як не будзе яе і пра наступнае, будзе, як заўсёды, душа просіцца у вырай:

Усё — пачатак тла і лоўля  
дзьмушак.  
І млоснасць духу — усё лухта  
лухты.  
Спадаюць дні, як ягады ў  
гарнушак,  
І мы — як з дрэва існасці лісты.

А вось як гучаць па-беларуску славутыя словы Саламона — «Болей мудрасці — болей смутку. Памнажаюць веды тугу»:

І пераважыць сілу знямога,  
З пакутай шаля — з уцехай  
шалю.  
У мнагамудрасці смутку  
многа:  
Чым болей ведаў, тым болей  
жалю.

Аднак не адным пачуццём песімізму, марнасці існавання прасякнуты гэтыя радкі. Убачыць у гэтым Свеце не толькі падрыхтоўчы этап для будучага ўвасаблення, але і цудоўнае месца, дзе можна знайсці сапраўдныя радасці і асалоду ў гэтым бытаванні. А таму патрэбна пражыць гэты наканаваны век на зямлі ў поўнай адпаведнасці з Божымі і чалавечымі законамі — такі ўрок выносім мы з вуснаў сапраўды народнага паэта Рыгора Барадуліна, які паказаў велізарныя мажлівасці беларускага духу і слова ўспрымаць мудрасць адвечных ісцін. (Асабліва гэта заўважна ў цыкле «Слядамі прытчаў Саламонавых».)

Знамянальна, што Р. Барадулін у сваім біблейскім цыкле паказаў сябе не адэптам пэўнай канфесіі, а сапраўдным прыхільнікам адзінства ідэй Хрысціянства, Любові і Чалавецтва, што аб'ядноўваюць усіх людзей. Вось чаму варта выдаць згаданыя творы асобнай кнігай, якая стане цудоўным падарункам для ўсіх, што шукае ісціну.

«Трыкірый» Р. Барадуліна — выключная (не пабаімся гэтага слова) з'ява ў духоўным жыцці беларусаў. Для нацыянальнай паэзіі яна роўнавялікая «Вянку» М. Багдановіча пачатку XX стагоддзя. Вызначальнай яна стане і ў творчай эвалюцыі народнага паэта, якога, па традыцыі, крытыка цаніла ў першую чаргу як пранікнёнага лірыка. Сапраўдным філосафам, не кніжнікам ці фарысеем, а ўвасабленнем зямной мудрасці, шматвяковага вопыту свайго народа паўстае Р. Барадулін. І хочацца схіліць галаву ў знак удзячнасці.




*Рубрыку вядзе*

*Лявон БАРШЧЭЎСКІ*

Швецыя дала свету цікавых паэтаў-неарамантыкаў, сярод якіх асаблівую вядомасць мелі Густаў Фрэдынг (1860—1911) і Эрык Аксель Карлфэльт (1864—1931).

*Густаў ФРЭДЫНГ*

### НАВАГОДНІ НАПЕЎ

Кожны смуткуе:
Бед не бракуе —
Шмат і ў мяне, і ў людзей іх штогод.
Гінуць пасевы:
Сквар і залевы
Ды чарвякі зноў прынеслі няўрод.
Родная, ўсё ж надта не засмучайся,
Што не спрыяе нам лёс век-вяком,
Бо ў новым годзе, бо ў новым годзе
Мы з табой, можа, лепш зажывём.

Хата згарэла —
Шчасце схацела
У лес, каб забыцца на ўсё, уцячы.
Хто ў час гаротны
Дужа ахвотны
Гэткім, як мы, жабракам памагчы?!
Родная, ўсё ж не зважай на бясхлеб'е:
Зараз усё мы нанова пачнём —
І ў новым годзе, і ў новым годзе
Мы з табой, можа, лепш зажывём!

### МЕЛОДЫЯ КАХАННЯ

За грошы каханне купіў я:
Інакш не даецца яно...
Спявай пра яго — хоць фальшыва,
Спявай пра яго ўсё адно.

Прыгожым было летуценне,
Ды явай не стала яно.
А выгнаны з раю, напэўна,
Тым раем жыве ўсё адно.

*Эрык Аксель КАРЛФЭЛЬТ*

### ПЕРШЫ ЎСПАМІН

Цёмна, коўзка, гола. Запаўняе абсяг
Доўгі шлях:
Вецер, вецер дзьме.

Дрэва хтось трымае і мяне, убаку,
За руку:
Вецер, вецер дзьме.

Да людзей, у белы ды агромністы дом
Мы ідзём:
Вецер, вецер дзьме.

Там труна бялее, і ў прастор той нямы
Рушым мы:
Вецер, вецер дзьме.

Пераклад са шведскай
Лявона БАРШЧЭЎСКАГА.

*Вечарыны*

# Жыве роднае слова

Прыхільнікам творчага таленту народнага песняра Беларусі Якуба Коласа пашанцавала. 18 лістапада іх сабралася шмат у вялікай зале менскага Дома літаратара на вечарыну «Адвечны водгук праўды, волі...», прысвечаную сямідзесяцігоддзю выхаду ў свет бессмяротнай паэмы «Новая зямля».

Тут гучалі выступленні вядомых пісьменнікаў, артыстаў і землякоў Я. Коласа — творчых калектываў Стаўбцоўшчыны: народнага аркестра народных інструментаў, народнага тэатра «Полымя», узорнага ансамбля «Лявоначкі», ансамбля народнай музыкі «Верацяно». Адкрываючы вечарыну, народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч сказаў: «Роднае слова будзе жыць вечна, як будзе жыць вякамі паэма народнага паэта Беларусі Якуба Коласа «Новая зямля». Гэта не паэма, а збор паэм, ці, дакладней, беларускі эпас. Гэта Біблія нашага жыцця, нашай мовы і літаратуры».

Аб літаратурнай беларускай мове, этапам у развіцці і станаўленні якой з'яўляецца паэма «Новая зямля», на вечарыне ўзнёсла і пранікнёна гаварылі народныя пісьменнікі Беларусі І. Шамякін і Я. Брыль, вядомы літаратуразнаўца У. Казбярук, паэты С. Законнікаў і Я. Хвалей.

Цёпла ўспрыняла зала ўрыўкі з гэтай паэмы у майстэрскім выкананні артыста Белдзяржфілармоніі Мікалая Казініна, інжынера МАЗа Іосіфа Гарэцкага, настаўніка 68-й сярэдняй школы Менска Пятра Валкаўца і іншых.

На вечарыне прагучалі песні «Мой родны кут» (на класічны верш Я. Коласа), музыку да якіх напісалі кампазітары Мікола Равенскі і народны артыст Ігар Лучанок.

Апладысментамі сустрэла зала сыноў песняра — Данілу Канстанцінавіча і Міхася Канстанцінавіча Міцкевічаў.

П. Г.

◆◆◆◆◆◆◆◆

# Памяці паэткі

«Яўгенія Янішчыц з'яўлялася ластаўкай беларускага слова, яна пакланялася яму,»— сказаў народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін пра паэтку на вечары яе памяці «Мужная і журлівая муза», які адбыўся 19 лістапада ў сталічным Доме літаратара. Эпіграфам да гэтай вечарыны былі радкі з яе верша:

*Які зайздросны свет паэта —*
*З нябачных промняў вобраз ткаць,*
*І — заміраць на схіле лета,*
*І ў вольным слове ўваскрасаць!*

А калі свае песні на вершы Яўгеніі Янішчыц выканаў кампазітар Уладзімір Казбанаў, а рамансы Марыі Марозава на вершы паэткі — спявачка Леакадзія Маслоўская, то вядучы Рыгор Барадулін усхвалявана дадаў: «Пачуўшы такія цудоўныя творы, можна шчыра сказаць — наша мова ажыла, яна жыве і будзе жыць вечна!»

Народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч падкрэсліў, што Яўгенія імгненна ўзляцела ў неба паэзіі, а ўзяла яна вытокі нацыянальнай мовы ад сваёй маці, аддавала іх шчодра ў сваіх творах людзям. «Словы Яўгеніі самай высокай пробы»,— адзначыў паэт Васіль Жуковіч.

Шмат цёплых слоў аб лірычнай паэзіі Я. Янішчыц, яе незвычайным таленце гаварылі паэты Валянціна Коўтун, Ніна Загорская, Леанід Галубовіч, Таццяна Лапцёнак, галоўны рэдактар часопіса «Маладосць» Генрых Далідовіч. Але ўсё ж нельга не адзначыць думку Уладзіміра Някляева: у творчасці Я. Янішчыц ёсць вялікае далучэнне да беларускасці, да беларускага слова.

Творы Яўгеніі Янішчыц са сцэны чыталі народная артыстка рэспублікі Лілія Давідовіч, артысты Галіна Кухальская і Алег Вінярскі, а бард Ганна Бутырчык праспявала свае песні на вершы паэткі.

Пятро ГАРДЗІЕНКА.

*Васіль СУПРУН*

# Праз церні

Нарэшце, пасля амаль сарака гадоў таемнага перахоўвання, убачыў свет зборнік маіх канцлагерных вершаў — «Крык». Гэта частка таго, што ўдалося ўратаваць праз гады суровых бальшавіцкіх рэпрэсій.

Вельмі няпросты быў шлях гэтых вершаў да чытача, да Бацькаўшчыны. Там, за кратамі камуністычных катоўняў, за калючымі дратамі канцлагераў, дзе забаранялася нават думаць аб нейкай антырэжымнай дзейнасці і за найменшае парушэнне чакала лютая кара, дзе праз найстражэйшую цэнзуру праходзіў адзіны дазволены ліст на Радзіму ў год,— ствараліся гэтыя балючыя радкі, як дакументы часу.

Ва ўмовах паўсюднага сачэння і «сексоцтва», бясконцых налётных шмонаў-вобыскаў нельга было і думаць аб пісьмовым захаванні тэкстаў палітычнага накірунку. Таму ўсё пісалася ў памяць, а ў шахтнай зоне патаемна змененым і нечытэльным почыркам перапісвалася на кавалкі паперы і хавалася да рэдкай нагоды неяк пераправіць лісток «на волю» — родным. Даходзіла не ўсё, а захавалася яшчэ меней, бо зняволенне доўжылася больш за дзевяць гадоў.

Мала было ў нас перспектыў на выжыванне, на выхад з таго кашмарнага пекла, але ўсё ж хацелася верыць у жыццё, не губляліся надзеі. Дапамагалі паэзія і сябры. Пісаліся вершы, ствараліся песні, якія падмацоўвалі веру, дадавалі сіл для працягвання барацьбы. Духоўнае жыццё не прызнавала кратаў і катаў, патрыятычныя пачуцці абвастраліся і праз вершы перадаваліся сябрам па лёсу. Вершы былі не толькі крыкам душы, але і духоўнай зброяй, якой мы баранілі сваю годнасць, свае пачуцці.

У зборнік уключана тое, што ўдалося сабраць, часткова аднавіць у памяці, дапрацаваць і, нарэшце, адважыцца ў 1989 годзе здаць у друк пры падтрымцы прафесара Алега Лойкі.

Стары таталітарна-камуністычны рэжым дажываў свой век, але яшчэ сударгава чапляўся за абломкі былой сістэмы. І мой зборнік праз паўгода быў вернуты з выдавецтва «Мастацкая літаратура» з допісам Л. Дайнекі: «Азнаёміліся з Вашым рукапісным зборнікам вершаў «Крык». На жаль, у такім выглядзе мы не можам яго прыняць да выдання. Рукапіс вяртаем».

Аднак змянілася сітуацыя ў выдавецтве, і зборнік надрукаваны. Праўда, не для друку калісьці пісаліся гэтыя вершы, і, магчыма, нешта можна было б перарабіць, падгладзіць. Ды ці варта? Для мяне — гэта штрыхі біяграфіі і дакументы часу. Для агульнага выгляду і зместу ў зборнік уключана і частка пазнейшых вершаў, блізкіх па тэматыцы.

Ніжэй прыведзена некалькі вершаў са зборніка «Крык».

## Мая малітва

Дай жа сілы мне, Божа!
Каб змог устаяць
Супраць здзекаў, маны і прымусу
І каб талент, старанні і праца мая
Сталі плёнам святой Беларусі.

Умацуй маю веру, малітвы мае,
Падкажы праз цярпенні дарогу
Да дабра, ўсеабдымнай любові Тваё
І да роднай хаціны парога.

Сумна цяжкаю выпала ноша мая
Па нявольных крывых пуцявінах
У чужых і праклятых, далёкіх краях
Між магілак ахвяраў нявінных.

Умацуй мае сілы і веру маю,
Божа мілы, заступнік адзіны!
І надзеі, і лёс свой Табе аддаю.
Жыць хачу толькі доляй Айчыны.

*Інта, 1951.*

## Мы волі чакалі

Мы волі ад іх цярпліва чакалі,
падману паверылі зноў:
у душах прадажных спагаду шукалі,
на здзек аддаючы сыноў.

І думалі —
ў працы, цярпенні і поце
утопім нядолю сваю.
Яны ж нашы мары на кратах і дроце
ў сваім распіналі «раю».

Агнём і маною знішчалі ўсё тое,
што продкі ў вяках зберагалі:
і веру, і памяць, і слова святое,
усё, што прыкончыць маглі.

Дзяцей прывучалі з маленства да кратаў,
вучылі зняважваць свой род,
глуміцца і з мовы, і з праўды, і з брата,
аплёўваць і ганьбіць народ.

Прачніцеся, браццы! Ці ж мы анямелі
і лёс наш стаў воляй чужых?
Прачніцеся! Покуль яшчэ не паспелі
на ўсё наша ставіць крыжы.

*Гродзенская турма, пасля трыбунала, 1948.*

## Відаць, даруем ім

*За вынішчэнні зноў, відаць, даруем катам,*
*бо тых,*
*каму яны прынеслі смерць —*
*няма.*
*Другія — што жывуць —*
*не ўспомняць пра расплату,*
*і воклічы ахвяр благаюць іх дарма.*
*Ім можна й пачакаць,*
*пакуль самі забойцы*
*не вытруць кроў з сваіх смярдзячых*
*трупам рук,*
*пакуль сляды свае не замятуць*
*«малойцы»,*
*а край чуць адажыве ад роспачы і мук.*
*Відаць, даруем ім ...*
*Бо ўсё ж яны — улада.*
*І ўсе зноў «за народ»,*
*гатовы правіць зноў.*
*У іх руках закон, літаўры, кананада,*
*і не адвыклі йшчэ смактаць людскую кроў.*

# З глыбінь стагоддзяў





У Віцебску, ля руін Благавешчанскай царквы (унікальны помнік XII стагоддзя), завершаны археалагічныя раскопкі. Яны ажыццяўляліся пад кіраўніцтвам старшага навуковага супрацоўніка АН Беларусі Таццяны Бубенкі. На глыбіні трох метраў былі знойдзены ювелірныя ўпрыгожанні X—XVII стагоддзяў, старадаўнія вырабы з косці, імянная пячатка Леаніда Грабовіча, іншыя каштоўнасці сівой беларускай даўніны.

НА ЗДЫМКАХ: на раскопках; знаходкі археолагаў.

*Фота Аляксандра ХІТРОВА.* БЕЛІНФАРМ.

# ЗАПРАШАЕМ ПРЫНЯЦЬ УДЗЕЛ

У гэтым годзе у рэспубліцы Беларусь шырока адзначалася 100-годдзе з дня нараджэння М. Гарэцкага. І ўжо добрай традыцыяй стала правядзенне ў лютым Гарэцкаўскіх чытанняў, што ўжо двойчы (у 1992 і 1993 гг.) праводзіліся ў Горках. Наступную навукова-практычную канферэнцыю, прысвечаную вывучэнню жыцця і творчасці вядомага пісьменніка і вучонага, вырашылі праводзіць у Магілёве.

На чытаннях будзе разглядацца самае шырокае кола пытанняў: Гарэцкі як літаратуразнаўца і як педагог, асаблівасці яго мовы і філасофскія погляды пісьменніка, роля бібліятэк у папулярызацыі яго твораў і вывучэнне іх у школах, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных установах.

Тэзісы (плануецца выдаць зборнік да чытанняў) дасылайце, калі ласка, на наступны адрас: 213410, Магілёўская вобл., г. Горкі, зав. Якубоўскага, 2, Горацкі гістарычна-этнаграфічны музей (пажадана да 20 снежня 1993 г.).

СТУДНЕВА М. М., супрацоўнік музея.

# Народная лякарня

## *Д. Джарвіс: Галавакружэнні*

Д. Джарвіс называе чатыры тыпы галавакружэнняў.

Тып 1. Галавакружэнне кароткатэрміновае, непрацяглае. Тыя людзі, у каго яно бывае, пазбягаюць вышыні, у іх парушаецца каардынацыя, калі даводзіцца, напрыклад, спускацца з лесвіцы.

Тып 2. Галавакружэнне звязана з парушэннем каардынацыі цела. Асабліва адчувальнае раніцай, калі трэба ўставаць. Хворы павінен пасядзець на краі ложка або ўхапіцца за нейкі прадмет, каб не ўпасці. Праз некалькі гадзін галавакружэнне, як правіла, супакойваецца.

Тып 3. Людзі вымушаны заставацца ў ложку на працягу некалькіх дзён. Яны не могуць самастойна ўстаць, апрануцца, у іх адсутнічае пачуццё раўнавагі, яны могуць нават упасці. Пачуццё моташнасці і адчування, што прадметы ў пакоі плывуць перад вачыма, у іх яшчэ няма, аднак галава кружыцца пастаянна.

Тып 4. У хворых назіраецца млоснасць, моташнасць, шум у вушах, у іх паслабляецца слых. Ёсць адчуванне, што прадметы ў пакоі плывуць перад вачыма. Хворы не можа самастойна ўтрымацца на нагах, пры хадзьбе яго трэба падтрымліваць. Перадумовай галавакружэнняў з'яўляецца шчолачная рэакцыя мачы. Калі рэакцыя змяняецца да кіслай, то галавакружэнне памяншаецца або знікае зусім.

Народная медыцына лечыць галавакружэнні з дапамогай яблычнага воцату. Дазіроўка і працягласць прыёму прыкладна такія ж, як пры лячэнні іншых хвароб. Неабходна арганізаваць рэжым дня і правільна харчавацца, тады хваробу можна лячыць. Аднак не думайце, што калі вы сёння адзін або два разы прымеце яблычны воцат, то заўтра ў вас ужо галавакружэння не будзе. Паменшыцца яно толькі напрыканцы другога тыдня лячэння, а здароўе наладзіцца ў канцы месяца.

## *Эпіграмы*

*Васіль ЛУК'ЯНЧЫК*

### ШАВЯЛІ РОГАМ

Жук-насарог хваліўся ўсім:
— Нікчэмнасць той, хто падхалім.
І толькі той праб'е дарогу,
Хто шавяліць умее рогам.

### СПРАВЫ — ДРЭНЬ

— Як справы, дружа мой, ідуць?
— А як у бульбы,— кажа Уладзік.—
Калі зімою не з'ядуць —
Вясною ранняю пасадзяць.

### БАЦЬКІ І ДЗЕЦІ

— Сынку, ты не пі так болей
І не лезь у бойку зноў.
— А мяне вучылі ў школе:
Трэба прыклад браць з бацькоў.

### НЕ МАЕ СЛЫХУ

— Не мае слыху сын ваш родны,
Для «музыкалкі» непрыгодны.
— Няўжо згубіў яго так скора:
За кіламетр чуў учора.

### ХАЙ ДАЛЕЙ ТАК ДУМАЕ

— Мамачка, сказаў мне Вася:
Вельмі я разумная.
— Болей з ім не сустракайся,
Хай далей так думае.

### РАЗГЛЕДЗЕЎ

— Учора зваў мяне ты краскай
Пры першай стрэчы на бульвары.
А сёння я не бачу ласкі...
— Я ўчора быў без акуляраў.

### БЕЗ ЧАРГІ

Урач зубны тануў у Сожы,
Ды выцягнуў яго прахожы.
— Ну, дзякуй богу, спрытны ўмелец! —
Сказаў збавіцелю тапелец.—
Прыходзь ка мне ты, дарагі:
Я зубы вырву — без чаргі.

г. Мсціслаў.

## *Афарызмы*

*Радзівое БОІЧЫЧ*

Цяпер толькі ў красвордах можна існаваць вертыкальна.

Таварыш зверху я — толькі сваёй жонцы.

Становішча Югаславіі ў свеце значна лепшае, як у нас.

Усе нашыя глупствы — доказ, што ўсё ж такі думаем сваёй галавою.

Пры камунізме на футбольных матчах усе будзем сядзець на заходняй трыбуне.

Дзе-якім нашым палітыкам Маркс сказаў тое, чаго б не казаў нават Энгельсу!

Хопіць нам ісцін. Скажыце, як у сапраўднасці было!

Руская Аляску прадалі адным махам, а сербы Косава — пляц за пляцам.

Дзякуючы гравітацыі, і мы да нечага цягнемся.

Мой бацька разбураў капіталізм дашчэнту, а мне зараз будуй яго ад пачатку.

Пераклаў з сербскахарвацкай Іван ЧАРОТА.

# ШТО ПАГЛЯДЗЕЦЬ ПА ТЭЛЕВІЗАРЫ?

**15 СНЕЖНЯ, СЕРАДА**

13.30. Навіны.
16.15. Для школьнікаў. Скарбы беларускай гісторыі.
18.25. Навіны Бі-бі-сі.
19.10. Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок».
21.00. Панарама.

**16 СНЕЖНЯ, ЧАЦВЕР**

13.00. Роднае слова. Тэлечасопіс.
13.30. Навіны.
16.20. Тэлебачанне — школе. Гісторыя Беларусі. 11 клас.
17.00. Тэлебом.
18.25. Навіны Бі-бі-сі.
19.45. Пазіцыя ўрада.
21.00. Панарама.

**17 СНЕЖНЯ, ПЯТНІЦА**

13.30. Навіны.
15.45. Педагагічны экран.
18.25. Навіны Бі-бі-сі.
21.00. Панарама.

**18 СНЕЖНЯ, СУБОТА**

10.00. Паказвае Гродна.
12.45. Адраджэнне. Культурна-асветніцкая праграма.
13.25. Вобраз. Свята паэзіі ў Крашыне.
14.45. «Голас». Літаратурна-мастацкі відэаканал для школьнікаў.
15.50. Песню бярыце з сабою. Конкурс на лепшую песню года «Залатая ліра». Трансляцыя з Тэатра музычнай камедыі.
17.50. Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок».
21.00. Панарама.
23.45. НІКа.

**19 СНЕЖНЯ, НЯДЗЕЛЯ**

14.00. Песню бярыце з сабою. Папулярныя выканаўцы і новыя імёны.
18.00. Песню бярыце з сабою. Канцэрт-ушанаванне лаўрэатаў прэміі «Залатая ліра».
20.00. Панарама.

## *Усмешлівыя згадкі*

# Без дазволу не араць!

Гэта было даўно ўвесну, напярэдадні нейкага архірэвалюцыйнага свята. Начальнік службы парадку ў мястэчку спытаў у прыйшоўшага падначаленага:

— Как дела? Что слышно?

— Усё добра. На выгане адзін ужэ арэ,— адказаў той.

— Как! Кто разрашыл? Прэкратить нямедленна безобразие!.. Аристовать!

Калі быў дастаўлены парушальнік спакою, то аказалася, што ён толькі «пахал», г. зн. араў зямлю для сяўбы, а не «кричал», не чакаючы мітынгу.

Станіслаў ШКАДЗІНСКІ.

Заснавальнік: ТБМ імя Ф. Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон: 33-17-83



Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Зак. 301.

МВПА імя Якуба Коласа, Менская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка», 220079, г. Менск, 1-ы Загарадны завулак, 3. Індэкс 63865.

Наклад 7268 паасобнікаў. Падпісана ў друк 13.12.1993 г. у 15 гадзін.